ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 5 (2531)
ПЯТНІЦА
29
студзеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





Фота Ул. КРУКА.

**Заўтра Івану Шамякіну, аднаму з самых папулярных беларускіх пісьменнікаў, спаўняецца 50 гадоў. Тысячы прыхільнікаў яго яркага таленту — а яны ёсць сярод людзей самых розных узростаў і прафесій — шлюць юбіляру шчырыя віншаванні і найлепшыя пажаданні, зычаць любімаму пісьменніку і надалей маладой бадзёрасці і ўласцівай яму нястомнай творчай актыўнасці...**

Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 4—5.

*НАСУСТРАЧ XXIV З'ЕЗДУ КПСС*

# З АДНОЮ ДУМАЮ, З АДНЫМ КЛОПАТАМ



**Г. КЛЁСАВА,**
начальнік Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкома

Кожны пражыты дзень набліжае нас да падзеі велізарнай гістарычнай важнасці—XXIV з'езда КПСС. Ва ўсіх кутках Віцебшчыны ідзе творчае спаборніцтва калектываў, прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, будоўляў, якія рыхтуюць свае працоўныя падарункі Радзіме, Камуністычнай партыі. У адзіным страі з рабочымі, калгаснікамі, творчай інтэлігенцыяй вобласці ідуць працаўнікі ўстаноў культуры, яны таксама рыхтуюць дастойную сустрэчу партыйнаму з'езду. Ініцыятыва работнікаў культуры Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці і Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы атрымала на Віцебшчыне шырокую падтрымку. Наш Высокагарадзецкі сельскі клуб (Талачынскі раён), які выйшаў пераможцам у другой Усесаюзнай пераклічцы сельскіх клубаў, Камайская і Дунілавіцкая сельскія бібліятэкі (Пастаўскі раён) таксама выступілі застрэльшчыкамі перадз'ездаўскага спаборніцтва культасветустаноў вобласці. Упраўленне культуры і прэзідыум абкома прафсаюза работнікаў культуры падтрымалі каштоўную ініцыятыву, іх пастанова абмеркавана на сходах работнікаў культуры ва ўсіх гарадах і раёнах вобласці. Усе клубныя ўстановы, бібліятэкі, музеі, паркі выпрацавалі практычныя меры па падрыхтоўцы да XXVII з'езда КП Беларусі і XXIV з'езда КПСС.

Але перш чым расказаць, як яны працуюць у гэтыя дні, хочацца адзначыць наступнае. Пярвічныя партыйныя арганізацыі, выканкомы мясцовых Саветаў, райкомы і гаркомы партыі шмат зрабілі, каб установы культуры добра падрыхтаваліся да работы ў зімовых умовах, умацавалі матэрыяльную базу. Летась уступілі ў строй некалькі новых клубаў і дамоў культуры. Напярэдадні Новага года, напрыклад, гасцінна расчыніў свае дзверы тыпавы клуб у саўгасе «Адаменкі» Лёзненскага раёна. Да дня адкрыцця XXIV з'езда КПСС уступяць у строй тыпавыя клубы ў калгасах «Праўда» Шумілінскага, «Звязда» Віцебскага і ў некаторых гаспадарках іншых раёнаў.

Знешні і ўнутраны выгляд устаноў культуры мае вялікае значэнне. Многае ў іх рабоце залежыць ад надзённасці, кідкасці, даходлівасці нагляднай агітацыі. Вось чаму паводле рашэння абкома КПБ у вобласці быў праведзены і агляд нагляднай агітацыі, прысвечаны з'езду КПСС.

Значна пашырылі рамкі агляду сельскія і прыклубныя бібліятэкі. На цэнтральных сядзібах калгасаў і саўгасаў яны стварылі даведачна-інфармацыйныя цэнтры, а ў сябе афармілі кніжныя выстаўкі, склалі картатэкі, па-мастацку афармілі альбомы, папкі часопісных і газетных артыкулаў пад рубрыкай «Насустрач XXIV з'езду КПСС», «Нашу ўдарную працу табе, партыйны з'езд». У гэтых альбомах можна знайсці цікавыя матэрыялы аб дасягненнях калгасаў і саўгасаў за мінулую пяцігодку.

Дзякуючы ўвазе партыйных і камсамольскіх арганізацый дзейнасць устаноў культуры набыла больш мэтанакіраваны характар, тэматыка праводзімых мерапрыемстваў у клубах, дамах культуры і бібліятэках стала разнастайнай, ідэйна насычанай. У асяродкі культуры ахвотна пайшлі ветэраны партыі і Савецкай дзяржавы, перадавікі калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў. У большасці раённых, гарадскіх і пасялковых дамоў культуры з удзелам старэйшых камуністаў, кавалераў ордэна Леніна, дэлегатаў партыйных з'ездаў летась былі праведзены цыклы вечароў пад назвай «Ленінская трыбуна». Як лагічны працяг гэтых вечароў зараз праводзяцца вусныя часопісы, тэматычныя вечары пад дэвізам «Ад з'езда да з'езда».

Сёння мы можам сказаць, што недахопу ў цікавых па форме мерапрыемствах няма. Задача ў тым, каб кожны вечар у кожным клубе нёс салідную сэнсавую і эмацыянальную нагрузку, пакідаючы прыкметны след у свядомасці і пачуццях удзельнікаў і прысутных. У большасці выпадкаў гэта ўдаецца.

Работнікі культуры вобласці выкарыстоўваюць станоўчы вопыт культасветустаноў не толькі сваёй, але і іншых абласцей рэспублікі і краіны. Не замыкацца ў сваіх рамках, зрабіць усё, каб і суседнія ўстановы культуры крочылі ў нагу з часам—гэты прынцып таксама шырока прымяняецца на практыцы. Мы праводзім зараз абласны агляд раённых, гарадскіх і гарпасялковых дамоў культуры. Першы этап—з верасня 1970 года па сакавік 1971 года. Ён пройдзе пад дэвізам «XXIV з'езду—дастойную сустрэчу». Другі этап яго будзе прысвечаны 50-годдзю стварэння СССР. За два гады можна будзе нямала зрабіць. Ва ўсякім разе пастараемся, каб кожны гарадскі і раённы Дом культуры стаў узорам у рабоце.

Зроблены ўжо такія практычныя крокі—правялі абласны семінар дырэктараў дамоў культуры. Пачалі яго з наведання тэматычнага вечара «Серп і молат» у Віцебскім гарадскім Доме культуры, усебакова абмеркавалі, завяршылі семінар тым, што ўсе ўдзельнікі наведалі маладзёжны вечар у Лёзненскім раённым Доме культуры. Загадчыкі аддзелаў культуры прысутнічалі на ўрачыстым шлюбе, паглядзелі прэм'еру коласаўцаў па п'есе А. Макаёнка «Трыбунал».

За час агляду кожны Дом культуры абавязкова павінен паказаць насельніцтву справаздачны канцэрт, арганізаваць паказальны тэматычны вечар для работнікаў усіх сельскіх культасветустаноў. Увогуле, на раённыя дамы культуры, раённыя бібліятэкі як метадычныя цэнтры, мы ўскладаем вялікія задачы. Ад іх умелай работы ў многім залежыць поспех работы сельскіх асяродкаў культуры. Невыпадкова, напрыклад, у Пастаўскім раёне, паводле прапановы аддзела культуры, сесія раённага Савета дэпутатаў працоўных вырашыла правесці агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці на лепшую канцэртную праграму, прысвечаную з'езду КПСС, і бібліятэчную эстафету «XXIV з'езду КПСС—нашу натхнёную працу».

Перагледзелі свае планы шэфскай работы гарадскія ўстановы культуры. «Тыдні гарадской культуры на вёсцы», якія праводзяцца двойчы ў год клубамі і дамамі культуры Оршы, сталі традыцыяй. У канцы мінулага года толькі за адзін тыдзень было абслужана 35 падшэфных калгасаў і саўгасаў Дубровенскага і Аршанскага раёнаў. З 1 снежня ў горадзе праводзіцца конкурс на лепшую канцэртную праграму для сяла, заключны канцэрт адбудзецца ў сакавіку гэтага года. Распрацаваны, зацверджаны і маляўніча выдадзены зводныя планы перадз'ездаўскіх тэматычных мерапрыемстваў дамоў і палацаў культуры Оршы. Робіцца ўсё, каб гэтыя планы не засталіся на паперы.

Падобны тыдзень гарадской культуры на сяле праведзены восенню мінулага года ўстановамі культуры Полацка. За гэты перыяд удзельнікі мастацкай самадзейнасці гарадскіх прадпрыемстваў, арганізацый і навучальных устаноў выступілі ў калгасах і саўгасах раёна 47 разоў.

Асабліва шырокія шэфскія сувязі ў Полацкай дзіцячай музычнай школы. Педагогі школы шэфствуюць над калектывамі самадзейнасці саўгаса «Чырвоны партызан», арганізавалі там ужо тры канцэрты, на грамадскіх пачатках вучаць загадчыка клуба на курсах баяністаў. Выступілі яны з лекцыямі-канцэртамі і ў Карпекскім сельскім клубе, клубе саўгаса «Трасніца», Ветрынскай школе-інтэрнаце. І яшчэ адно цікавае пачынанне ў педагогаў гэтай школы. Яны стварылі перасоўны музычны лекторый. На гэты навучальны год распрацаваны новы цыкл з 10 лекцый, з імі яны выступаюць у агульнаадукацыйных школах. Пры школе-інтэрнаце ўжо другі год працуе «Клуб юных аматараў музыкі». Калектыў школы актыўны ўдзел прымае і ў рабоце гарадскога універсітэта культуры.

У студзені гэтага года адбыліся педагагічныя чытанні педагогаў музычных школ вобласці. З удзелам буйнейшых музыкантаў і музыказнаўцаў, педагогаў Ленінградскай і Мінскай кансерваторый ішла дзелавая, цікавая размова аб павышэнні прафесіянальнага майстэрства педагогаў, ролі музычных школ у прапагандзе музычных і эстэтычных ведаў сярод шырокіх слаёў насельніцтва, аб пашырэнні сеткі народных універсітэтаў, лекторыяў, асабліва на вёсцы.

Значнай падзеяй для юных музыкантаў з'явіцца абласны конкурс маладых талентаў (праводзіцца ў нас адзін раз у два гады), заключны тур яго адбудзецца ў сакавіку гэтага года. Педагогі музычных школ і вучылішчаў разам з паэтамі і кампазітарамі вобласці змогуць памерацца сіламі ў абласным конкурсе на лепшы твор аб Радзіме, Камуністычнай партыі, У. І. Леніне, аб моладзі. Конкурс праводзіцца абласным Домам народнай творчасці разам з абкомам камсамола і прысвячаецца з'езду партыі.

Так, у работнікаў культасветустаноў вобласці багата планаў. Варта назваць тут фотавыстаўку, якую рыхтуюць абласны Дом народнай творчасці разам з аддзеламі культуры, агляд аматарскіх кінафільмаў, што расказваюць аб пераўтварэннях у нашым краі за перыяд ад з'езда да з'езда, які рыхтуюць Упраўленне культуры разам з АДНТ, абласным Домам мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў і студыяй тэлебачання.

У апошнюю нядзелю лютага паўсюдна на Віцебшчыне адбудзецца традыцыйнае народнае свята «Снежны фестываль». Свята дужых, спрытных і смелых, свята здароўя і свята праслаўлення чалавека працы. Хаця свята і традыцыйнае, але яно не церпіць шаблону, паўтору, а патрабуе ад арганізатараў выдумкі, кемлівасці, знаходлівасці і таму клопатаў у работнікаў культуры шмат.

Прынялі на сябе павышаныя абавязацельствы і музейныя работнікі. Удасканальваюцца існуючыя экспазіцыі, музеі аснашчаюцца новай тэхнікай, радыёвузламі і г. д. Усё гэта выклікае павышаную цікавасць у наведвальнікаў, пакідае ў іх больш глыбокае ўражанне. 24 кастрычніка 1970 года ветэранамі-партызанамі высаджана ля музея М. Ф. Шмырова алея партызанскай Славы. Музей папоўніўся карцінай мастака Міхаіла Савіцкага «Легенда пра Міная Шмырова», яна будзе ўведзена ў экспазіцыю да дня адкрыцця партыйнага з'езда. Разам з клубамі рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы праводзяцца тут вечары сустрэч, уручэнне камсамольскіх білетаў, піянерскія зборы, тэматычныя аглядныя экскурсіі.

Рыхтуе перадз'ездаўскія падарункі працоўным вобласці і творчая інтэлігенцыя: мастакі — выстаўку работ, артысты тэатра імя Я. Коласа — новую прэм'еру.

Як відаць з гэтага невялікага расказу, трэба сур'ёзна папрацаваць, каб усе планы і задумы сталі явай. Мы памятаем, што поспех любой справы рашаюць кадры. Вядзём падрыхтоўку і перападрыхтоўку культасветработнікаў на спецыяльных курсах. Да дня з'езда павысяць сваю кваліфікацыю яшчэ 65 загадчыкаў сельскіх клубаў і бібліятэк.

Радуюць нас новыя пабудаваныя клубы і дамы культуры, абноўлены інтэр'ер, мэбля, набыты музычныя інструменты і тэхнічныя сродкі прапаганды. (Хаця трэба адзначыць, што гэтых тэхнічных сродкаў прапаганды атрымліваем мы яшчэ мала). Але час ўжо больш звяртаць увагі на глыбіню праводзімых мерапрыемстваў, іх выніковасць. А ў гэтай справе, што грэх таіць, у нас яшчэ непачаты край работы. У снежні мінулага года на савеце ўпраўлення абмяркоўвалася работа бібліятэк Лепельскага раёна ў дапамогу спецыялістам сельскай гаспадаркі. Сур'ёзных недахопаў было выкрыта нямала: слабая сувязь раённай і сельскіх бібліятэк са спецыялістамі калгасаў, саўгасаў, упраўленнем сельскай гаспадаркі, адсутнасць аператыўнай навукова-тэхнічнай інфармацыі. Праведзены аналіз і анкетнае апытанне сельскіх спецыялістаў паказалі, што яны яшчэ рэдка звяртаюцца за дапамогай у бібліятэкі, вельмі слаба ведаюць пра крыніцы бібліяграфічнай інфармацыі, міжбібліятэчны абанемент і многія іншыя пытанні. З 349 спецыялістаў сельскай гаспадаркі раёна ўсімі бібліятэкамі абслугоўваюцца толькі 253. Кніжныя фонды раду бібліятэк зусім не задавальняюць запытанні спецыялістаў.

Улічваючы ўсё гэта, упраўленне культуры прапанавала ўсім раённым аддзелам культуры і бібліятэкам глыбока прааналізаваць становішча спраў, прыняць практычныя меры па паляпшэнні работы са спецыялістамі сельскай гаспадаркі, намагчы ім словам і справай рыхтавацца да барацьбы за ўраджай першага года дзевятай пяцігодкі.

Пражытыя юбілейныя гады з'явіліся сур'ёзным экзаменам на сталасць работы ўстаноў культуры. Многія з іх гэты экзамен з гонарам вытрымалі. У рэспубліцы выраслі новыя народныя калектывы, самадзейныя кампазітары і паэты, балетмайстры і музыканты стварылі значныя творы. Было б вельмі карысна, каб Рэспубліканскі Дом народнай торчасці разам з метадычным кабінетам культасветработы Міністэрства культуры Беларускай ССР як мага шырэй распаўсюдзіў іх сярод самадзейных калектываў рэспублікі, асабліва творы, створаныя ў танцавальных калектывах, ансамблях.

І яшчэ адна праблема, якая, відаць, хвалюе кіраўнікоў культуры іншых раёнаў і абласцей рэспублікі. Гэта пытанне падрыхтоўкі рэжысёраў для народных тэатраў, сетка якіх штогод расце. Хоць у тэатральным інстытуце ўжо ёсць спецыяльная група па падрыхтоўцы такіх спецыялістаў на рэжысёрскім факультэце, але гэта кропля ў моры. Трэба загадзя ўсё зрабіць, каб і гэту кроплю не расплюхаць, каб усе рэжысёры па размеркаванні дзяржаўнай камісіі паехалі працаваць у народныя тэатры і лепшыя драматычныя калектывы рэспублікі. Органы культуры павінны паклапаціцца аб стварэнні ім неабходных жыллёва-бытавых умоў, акружыць іх клопатам і ўвагай.

Нядаўна ў нас адбылася абласная партыйная канферэнцыя. Самадзейныя калектывы і творчыя работнікі рапартавалі на ёй аб прароблёнай рабоце. Нам было пра што расказаць і што паказаць. Але мы яшчэ і яшчэ раз зразумелі, колькі яшчэ трэба зрабіць, каб дастойна сустрэць з'езд партыі. Аб гэтым цяпер нашы думкі, наш клопат.

# НАРАДА Ў ВІЛЬНЮСЕ

З 19 па 21 студзеня ў Вільнюсе праходзіла нарада кіруючых работнікаў міністэрстваў культуры, прадстаўнікоў рэспубліканскіх тэатральных аб'яднанняў, драматургаў, рэжысёраў, тэатральных мастакоў прыбалтыйскіх рэспублік і Беларускай ССР, прысвечаная XXIV з'езду КПСС.

Нараду адкрыў намеснік міністра культуры СССР К. Варанкоў.

З дакладам «Аб выніках тэатральнага сезона 1969-70 гадоў і задачах тэатраў па падрыхтоўцы да з'езда партыі» выступіў начальнік Упраўлення тэатраў Міністэрства культуры СССР Г. Іваноў.

Намеснік міністра культуры БССР Ю. Міхневіч расказаў пра работу з кіруючымі і творчымі кадрамі драматычных тэатраў рэспублікі.

З паведамленнямі пра работу з драматургамі па стварэнні новага рэпертуару, пра павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню тэатраў выступілі начальнік Упраўлення па справах мастацтва Міністэрства культуры Латвійскай ССР Е. Ванагас, намеснік міністра культуры Эстонскай ССР П. Усман, начальнік Упраўлення па справах мастацтва Міністэрства культуры Літоўскай ССР Р. Якучыёніс.

Галоўны рэжысёр Акадэмічнага тэатра драмы Літоўскай ССР Г. Ванцявічус прысвяціў сваё выступленне адказнасці крытыкі ў творчай дзейнасці тэатра і драматурга. Галоўны рэжысёр Беларускага тэатра імя Я. Коласа С. Казіміроўскі расказаў аб рабоце тэатра па выхаванні творчай моладзі.

Старшыня прэзідыума Літоўскага тэатральнага аб'яднання І. Каваляўскас звярнуў увагу на ўмацаванне творчых сувязей паміж тэатрамі братніх рэспублік і прапанаваў аднавіць традыцыю правядзення тэатральных вёснаў Прыбалтыкі і Беларусі, якія спрыялі творчаму ўзбагачэнню тэатральнага мастацтва гэтых рэспублік.

Аб рабоце з аўтарамі гаварыў дырэктар Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі Л. Валчэцкі. Ён выказаў думку аб стварэнні ў Маскве спецыяльнага тэатра народаў СССР, дзе б выступалі лепшыя тэатральныя калектывы братніх рэспублік.

На нарадзе выступіў драматург А. Арбузаў, які зрабіў аналіз сучаснай драматургіі, расказаў пра п'есы маладых драматургаў — удзельнікаў нарады.

Удзельнікі нарады абмяняліся думкамі аб праблемах драматургіі, правядзенні конкурсаў на лепшыя сучасныя п'есы для моладзі, аб працы рэдакцыйна-рэпертуарных калегій міністэрстваў.

**В. УЛАДЗІМІРАЎ.**

# Івану ШАМЯКІНУ — 50 ГАДОЎ!

*Спаўняецца 50 гадоў выдатнаму беларускаму пісьменніку Івану Шамякіну.*

*Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала юбіляру віншаванне, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Іван Пятровіч!**

**Горача, ад усёй душы віншуем Вас, нашага слаўнага таварыша, выдатнага пісьменніка Савецкай Беларусі, з 50-годдзем з дня нараджэння.**

**Вы прыйшлі ў літаратуру адразу, як вярнуліся з Вялікай Айчыннай вайны, на франтах якой мужна змагаліся. Нягледзячы на маладыя гады, у вас ужо быў назапашан вялікі багаж жыццёвых назіранняў.**

**Першай сваёй аповесцю «Помста» Вы зрабілі сур'ёзную заяўку ў літаратуру. А калі выйшаў у свет раман «Глыбокая плынь», грамадскасць рэспублікі, чытачы ўбачылі, што ў беларускай літаратуры з'явіўся новы яркі талент.**

**З таго часу кожная Ваша кніга — раман, аповесць, зборнік апавяданняў — сустракалася і сустракаецца з нязменнай цікавасцю як у рэспубліцы, так і за яе межамі. Ваша творчасць ідзе ад жыцця, непарыўна звязана з жыццём, з практыкай камуністычнага будаўніцтва.**

**Раманы «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», цыкл аповесцей «Трывожнае шчасце» і шэраг іншых Вашых твораў — гэта летапіс жыцця нашага народа, пададзены маштабна, з вялікай мастацкай пераканальнасцю.**

**Паспяхова працуеце Вы і ў жанры драматургіі. Вашы п'есы «Не верце цішыні», «Выгнанне блудніцы», «Дзеці аднаго дома» шырока прагучалі на сцэнах нашых тэатраў.**

**Як палымяны публіцыст, Вы часта выступаеце ў друку, па радыё і тэлебачанні, расказваеце працоўным рэспублікі пра глыбінныя працэсы жыцця і праблемы, якія хвалююць шырокую грамадскасць.**

**Ва ўсіх сваіх творах і выступленнях Вы простыя і шчыры, улюбёны ў нашага працавітага савецкага чалавека, у яго стваральныя справы.**

**Не можам не адзначыць і Вашу вялікую партыйную і грамадскую дзейнасць, як дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, члена Мінскага абкома КПБ, аднаго з кіраўнікоў нашай пісьменніцкай арганізацыі.**

**Няхай жа і надалей, дарагі Іван Пятровіч, квітнее Ваш шматгранны, мужны і добры талент! Поспехаў Вам у новым паўстагоддзі!»**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і ў сваю чаргу жадае юбіляру моцнага здароўя і новых творчых здзяйсненняў.*

# У НЯСПЫННЫМ

**У** ГЭТЫЯ дні грамадскасць рэспублікі адзначае пяцідзесятую гадавіну з дня нараджэння пісьменніка Івана Пятровіча Шамякіна.

Дваццаць шэсць гадоў таму назад, у першы пасляваенны год, з'явіўся ў друку першы яго твор, аповесць «Помста».

Гэтая аповесць, апавяданні «У снежнай пустыні», «Бацька», «Браты», «Наташа» і «Хлопчык з-за акіяна» былі тымі першымі творамі, якія сталі вядомы шырокай грамадскасці. Але творам, які прынёс сапраўдную папулярнасць аўтару, творам, які вылучыў гэтага пісьменніка на адно з першых месц у сучаснай беларускай літаратуры, быў яго раман «Глыбокая плынь».

Мне няма патрэбы гаварыць аб змесце рамана, аб яго значэнні, аб яго літаратурных вартасцях. Усё гэта добра вядома чытачам. Прывяду толькі тыя словы, якія былі сказаны адным з асноўных герояў рамана Карпам Маеўскім, калі пасля вайны яго сям'я, ды і ўсе нашы людзі ўзяліся за расчыстку руін і папялішчаў, за аднаўленне знішчаных і разбураных ворагам вёсак і гарадоў, за аднаўленне сваёй гаспадаркі, свайго жыцця:

— Ну, дзеці, будзем будавацца.

Гэтыя словы набылі сімвалічны характар. Беларусы будаваліся. Сягоняшнім днём мы бачым грандыёзныя вынікі гэтага будаўніцтва ва ўсіх галінах жыцця народа: у яго гаспадарцы, у яго культуры, у яго побыце. Мы бачым гэтыя вынікі і на багатых калгасных нівах, і ў гіганцкіх маштабах росту нашай індустрыі, і ў шматгранных здабытках нашай нацыянальнай культуры. Не так даўно ўрачыста адсвяткавалі мы пяцідзесяцігоддзе з дня заснавання нашай рэспублікі. Некаторыя нашы тэатры, выдавецтвы, газеты, часопісы, паасобныя культурныя ўстановы адзначылі свае паўвекавыя юбілеі. І юбілей Івана Шамякіна — гэта з'ява, неад'емная ад росту і росквіту нашай краіны, яе народа, яе культуры.

Некалі літаратурныя юбілеі былі даволі рэдкімі з'явамі на Беларусі. А цяпер? У наступным месяцы мы адзначым пяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння Івана Мележа. На падыходзе, можна сказаць, сямідзесяціпяцігоддзе Кандрата Кандратавіча Крапівы. А юбілеі Васіля Віткі, Аляксея Зарыцкага, Анатоля Астрэйкі, Сцяпана Александровіча, Янкі Журбы, Янкі Лучыны, Максіма Багдановіча, памятныя даты, звязаныя з імёнамі Якуба Коласа, Змітрака Бядулі... Гэта ж у адным толькі годзе! Хіба не сведчыць усё гэта аб тым, што наша беларуская зямля, якая на працягу стагоддзяў лічылася зямлёй бясплоднай, нібы няздатнай да высокай культуры і цывілізацыі, зямлёй, якая нібыта не давала асаблівага повада спадзявацца, што яна здольна «рождать собственных платонов і быстрых разумом невтонов», у сапраўднасці аказалася чымсьці падобнай на алмазны россып талентаў. Талентаў самых розных: палітычных і грамадскіх дзеячоў, палкаводцаў, вучоных, славутых хлебаробаў, будаўнікоў, сталявараў, пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, педагогаў, выдат-

Віктар КАВАЛЕНКА

# КАЛІ НАТХНЯЕ ЧАС...

**П**ЯРОМ ПІСЬМЕННІКА — хоча ён гэтага ці не хоча — водзіць час. Але жыццё творцы ў часе заўсёды індывідуальнае і незваротнае, таму на кожнай мастацкай рэчы непаўторны «почырк» часу. На адных ён выразны, націскны, «каліграфічна» выпісаны, на іншых — далікатны, размыты, губляецца між радкоў пісьменніка, прысутнічае ў творы апасродкавана. Яснасць, што лепш, тут адносная. Існуе свабода творчага выбару арыентацыі на час. Няма і не можа быць непрымірымага размежавання ў мастацтве паміж эстэтыкай адлюстравання трапяткой сучаснасці і адвечных каштоўнасцей духоўнага жыцця. Галоўная тэндэнцыя іх суіснавання — не разрыў, а ўзаемнае дапаўненне і збліжэнне.

Пра ўзаемадачыненні пісьменніка і часу нямала прашумела дыскусій, у якіх не адзін раз чынны ўдзел браў І. Шамякін — папулярны беларускі раманіст вельмі адкрыта выяўленага імкнення пільна «слухаць час». Але, мабыць, ніколі праблема часу не была дыскусійнай для яго самога. Ён з тых пісьменнікаў, якія з самага пачатку літаратурнай дзейнасці здкрылі шырокі непасрэдны доступ часу ў мастацкае жыццё вобразаў. І самыя вобразы твораў І. Шамякіна часта народжаны сучаснасцю, перыпетыямі грамадскага развіцця і барацьбы. Аўтар прымусіў ужо звыкнуцца, што амаль кожны яго новы твор — толькі што ўхопленае імгненне бягучага часу, толькі што злоўлены момант у грамадскіх настроях і людской псіхалогіі, увасобленыя ў канкрэтных лёсах герояў. Адсюль яго папулярнасць, якой могуць пазайздросціць шмат якія пісьменнікі.

Творчасць І. Шамякіна моцная якраз жывой сувяззю з праблемамі сучаснасці. Пісьменнік імкнецца ў звычайным псіхалагічным зруху і ўчынку адчуць «знак» часу, і праз яго раскрыць тыповыя грамадскія працэсы, і гэтым самым памагчы чытачу ўсвядоміць сваю эпоху, нават канкрэтны дзень свайго быцця. Гэта важны, цяжкі і адказны абавязак літаратуры.

Першае апавяданне пісьменніка «У снежнай пустыні» (1944—1946) мела ўжо даволі стройную структуру пераканаўчых псіхалагічных і бытавых рэалій, цікавых эмацыянальных падрабязнасцей, напісана было на надзённую тэму, несла гуманістычную ідэю высакародства і таварыства і нават па прызнанні сённяшняй крытыкі лічыцца — зусім, дарэчы, справядліва — добрым творам.

Але тады яно не было яшчэ творам шамякінскім, калі мець на ўвазе таго І. Шамякіна, якога чытач ведае сёння і творчая індывідуальнасць якога склалася перш за ўсё ў выніку развітага ўмення лавіць новыя трапяткія праблемы бягучага дня, адкрываць іх упершыню ці амаль што ўпершыню. Апавяданне «У снежнай пустыні» сведчыла толькі пра тое, што ў беларускую літаратуру ідзе здольны празаік.

«Сапраўдны», сённяшні Шамякін, у якога сваё месца ў літаратуры, свой кірунак творчасці, пачаўся з аповесці «Помста» (1945). У гэтым творы заўважаецца ўжо такі паварот зместу, які вядзе да сцвярджэння і асаблівага, нават публіцыстычнага падкрэслівання вельмі надзённай канкрэтнай ідэі.

Аповесць «Помста» застанецца ў гісторыі беларускай савецкай прозы не з-за рэалістычнай грунтоўнасці апавядальнай манеры (пісьменнік і не імкнуўся да гэтага), а дзякуючы сваёй выразнай гуманістычнай і вельмі надзённай для таго часу ідэі. Твор заклікаў да чалавечнасці і разважлівасці, паэтызаваў высакародства пераможцаў, нагадваў пра неабходнасць разумнага і справядлівага размежавання вінаватых і невінаватых. О, якой сучаснай, якой надзённай была гэтая ідэя пасля перамогі, калі чакалі разумення і справядлівасці тысячы складаных і заблытаных чалавечых лёсаў, калі нясцерпны горыч стратаў, разбурэнняў нярэдка клікаў прывід сляпой помсты, калі гады невымерных пакут і вялікай пралітай крыві прытупілі шмат у каго маральнае пачуццё адказнасці за чалавека. Высакародства патрэбна было і самім пераможцам. Раманенку «ў глыбіні душы было лёгка і радасна», калі ён адмовіўся ад помсты.

Ідэя аповесці, такім чынам, звужалася ў чыста мастацкіх межах, зніжалася да канкрэтных патрэб жыцця, але якім неабходным і высакародным было гэтае звужэнне і зніжэнне. Менавіта сваёй ідэяй «Помста» жыла ўжо ў новым часе, у будучыні.

Аднак «Помста» адкрыла і такую ісціну творчага характару, што публіцыстычная завостранасць зместу і ўмоўнасць формы ў сур'ёзным мастацкім творы маюць крытычныя межы развіцця, за якімі знікае пераканальнасць малюнка, рэальным становіцца адрыў ад жыцця.

Мабыць, пісьменнік адчуў гэта. Прынамсі, у рамане «Глыбокая плынь» (1949) ён не развіваў галоўную стылявую лінію «Помсты», а імкнуўся ўсяляк «зазямліць» дзеянне, не адмаўляючыся ад яго дынамічнасці і драматызму. Пачынаючы з рамана «Глыбокая плынь», І. Шамякін упэўнена становіцца на той шлях, які раскрывае галоўную стылявую сутнасць яго творчасці — пошукі сродкаў жыццёва натуральнага мастацкага ўвасаблення публіцыстычна завостранай новай і надзённай грамадскай праблемы.

Выходзіць, І. Шамякін адыходзіць ад рэалістычнай грунтоўнасці да ўмоўнасці, каб зноў вярнуцца назад. У нейкай ступені гэта так. Але гэты зварот адбываецца ўжо на нейкім новым узроўні, ён дыктуецца індывідуальнай творчай пазіцыяй пісьменніка, якая ўжо складваецца. Умоўнасць зусім не знікае, яна пераўтвараецца, шукае натуральнага зліцця з рэалістычнай верагоднасцю. Вось эпізод з рамана, у якім апісваецца, як Карп Маеўскі, шукаючы Кулеша па заданні партызан, выпадкова знаходзіць яго ў сваёй жонкі Палагеі. Умоўны гэты эпізод ці рэалістычны? Можна сказаць і так і гэтак. Мы адчуваем прысутнасць тут умоўнасці (шчаслівая гэтая выпадковасць лёгка здымае ўсе складанасці ў асабістым лёсе Карпа), але адчуваем ледзь-ледзь, не да канца верачы сабе, бо ведаем, што ў жыцці такія выпадковасці здараюцца. Гэты эпізод жыццёва пераканаўчы, хоць і драматычна ўскладнёны. Ён тыпова шамякінскі і можа служыць тыповым прыкладам стылявога ладу твораў пісьменніка. Умоўнасць і верагоднасць ужо не супроцьпастаўляюцца, а зліваюцца, ствараючы жывы і праўдзівы малюнак.

Не ўсё, вядома, адразу ўдавалася І. Шамякіну на такім высокім мастацкім узроўні, як у прыгаданым эпізодзе. Але імкненне да рэалістычнай верагоднасці і праўдзівасці якраз дало магчымасць паказаць займальна шмат праўдзівых момантаў з партызанскага жыцця і барацьбы на акупіраванай тэрыторыі.

Уражвае ў самым пачатку рамана ўжо тое, што Таццяна Маеўская, галоўная гераіня, калі пачалася вайна, стараецца хутчэй дабрацца да дому, да бацькі. Значнасць гэтага моманту была ў тым, што ў шмат якіх творах пра партызан (і ў апавяданні самога Шамякіна «Наташа» таксама) героі ўцякалі з дому на вайну. Хоць на хвілю застацца дома для іх азначала папасці ў здраднікі. Пастунова літаратура зрабіла адкрыццё, што партызанская барацьба не была б такая паспяховая, калі б усе яе ўдзельнікі адрываліся ад дому, калі б яна не ішла таксама «пад стрэхамі» роднымі. І. Шамякін — адзін з першых пісьменнікаў, якія адчулі і зразумелі, што кожны будучы партызанскі баец павінен быў спачатку замацавацца ў побыце, ужыцца ў існуючую рэчаіснасць, увайсці ў яе вельмі натуральна, каб пасля паспяхова змагацца.

Наватарскія рысы «Глыбокай плыні» выявіліся і ў тым, што ў ёй палемічна падрываўся максімалізм у патрабаваннях да магчымасцей чалавека, характэрны для шмат якіх твораў на партызанскую тэму, дзе кожны герой на меньшае чым вялікі подзвіг не разменьваўся.

Раман «Глыбокая плынь» сцвярджаў разуменне складанасці жыцця і барацьбы на часова акупіраванай тэ-

НА РОДНАЙ МОВЕ...














# ПОСТУПЕ

Міхась ЛЫНЬКОЎ

ных прадстаўнікоў усіх галін чалавечай дзейнасці. Чаму ж здарылася такое? Прычынай таму была вялікая пралетарская рэвалюцыя, мудрае ленінскае слова, гераічныя намаганні ленінскай партыі і народа, іх самаадданая праца. Іменна яны ператварылі былыя балотныя і лясныя абшары, былую беспрасветную глухамань Беларусі ў светлае і прасторнае поле дзейнасці для чалавека, стварылі найлепшыя ўмовы для яго паўнакроўнага творчага жыцця. Сёння беларусы мабілізуюць свае сілы і здольнасці, каб дастойна сустрэць чарговы з'езд партыі, якая вывела і беларускі народ на сусветныя прасторы новага жыццебудаўніцтва.

Кажучы пра творчасць Івана Шамякіна, аднаго з нашых лепшых пісьменнікаў, трэба ў першую чаргу спыніцца на яго выключнай працаздольнасці. Сапраўды, за кароткі параўнаўча час ён напісаў шмат буйных твораў—раманаў, аповесцей, некалькі кніжак апавяданняў. Ім створаны некалькі п'ес, кінасцэнарыяў. Толькі-толькі што апублікавана яго кінааповесць «Эшалон у Германію». Такой працаздольнасці, такой адданасці працы, любві да яе, майстэрству трапнай кампазіцыі, займальнасці твора (займальнасці ў лепшым сэнсе гэтага слова) можна толькі шчыра пазайздросціць і пажадаць такіх якасцей кожнаму нашаму пісьменніку. Тым больш, што ўсё з напісанага нашым юбілярам—не скараспелкі, не аднадзёнкі, не адпіскі. Гэта сур'ёзныя творы, якія з'явіліся ў выніку грунтоўнага вывучэння жыцця, яго глыбінных працэсаў, іменна тых глыбокіх плыняў, тых кіпучых і светлых крыніц, у якіх пульсуе, фарміруецца, выкрышталізоўваецца наша сучаснасць. Іван Шамякін арганічна звязаны з жыццём народа, з яго інтарэсамі і запатрабаваннямі. Таму і творчасць яго, творчасць пісьменніка-камуніста, пісьменніка-грамадзяніна, вылучаецца сапраўднай партыйнасцю і народнасцю.

Іван Шамякін—добры грамадскі працаўнік. Ён дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі. Ён прымае актыўны ўдзел у партыйным жыцці краіны.

Як член праўленняў Саюзаў пісьменнікаў — рэспубліканскага і ўсесаюзнага і як адзін з сакратароў рэспубліканскага праўлення ён прымае самы непасрэдны ўдзел у літаратурным жыцці, у яго кіраўніцтве. Ён добры таварыш, добры сем'янін, прыемна спалучае ў сваёй асобе харошыя прафесійныя і чалавечыя якасці.

Гэта не значыць, аднак, што ў яго, як пісьменніка, няма ачіякіх заган, тых або іншых недахопаў. Хаця па традыцыях юбілейных цырыманіялаў усяго больш ужываюцца такія рэчы, як фіміямы і ялеі, я думаю, што ад нашага юбіляра нічога не ўбавіцца, калі прыгадаць і яго некаторыя агрэхі. Трапляліся часам, праўда рэдка, такія, не прадуманыя да канца, напісаныя ў спешцы творы, як «Ах Міхаліна, Міхаліна...». Справядліва адзначалі рэцэнзенты, што пісьменнік часам абыходзіў ласкай сваіх паасобных герояў, не абмалёўваў іх на поўную моц сваіх здольнасцей і таленту. Мелі месца моўныя пагрэшнасці. Нават не пагрэшнасці ў вузкім сэнсе гэтага слова, а недастатковае ўжыванне ў невычэрпным багацці жывога слова народнай мовы, мовы трапнай, яркай, вобразнай, глыбока эмацыянальнай.

Такі, коратка кажучы, наш юбіляр, пісьменнік—лаўрэат дзяржаўных прэмій — саюзнай і рэспубліканскай, які не спачывае на заслужаных лаўрах, які ў заўсёдным пошуку, у заўсёднай творчай працы. Пажадаем жа яму, каб ён і далей ішоў сваім цвёрдым і няспынным крокам, каб і надалей з такім жа глыбокім пранікненнем у складаны духоўны свет чалавека, з той жа назіральнасцю, з той жа душэўнай далікатнасцю, якія паказаў ён у невялічкай навеле «Матчыны рукі», будаваў ён свае апавяданні, аповесці і раманы. Каб у тых будучых творах яшчэ больш адчувалі мы жывое дыханне нашай эпохі з яе высокай культурай, з яе гістарычнымі перамогамі — сацыяльнымі і тэхнічнымі. Каб, ствараючы новыя культурныя каштоўнасці для народа, дастойна ўслаўляў яго працоўныя подзвігі, яго барацьбу за камуністычную будучыню, будучыню народа і ўсяго чалавецтва...

рыторыі якраз у той час, калі ў грамадстве ішло інтэнсіўнае асэнсаванне не толькі ўжо гістарычна ваеннага, але сацыяльнага і духоўнага значэння партызанскага руху. Сапраўды, галоўны герой «Глыбокай плыні» — народ. Не І. Шамякін адкрыў гэтага героя, але ён імкнуўся паказаць яго ў праўдзівым і пераканаўчым вобліку.

Раман «У добры час» (1952) яшчэ больш набліжаўся да сучаснасці. Надзённасць грамадскага жыцця ўваходзіла ў яго непасрэдна.

Сюжэт рамана традыцыйны для прозы тых гадоў, калі ён пісаўся — зварот дэмабілізаванага салдата дамоў пасля шматгадовай адлучкі. Вельмі часта зварот гэты ў тагачаснай літаратуры выглядаў ідылічным, нягледзячы на тое, што ў роднай вёсцы герой заставаў разбурэнні і нястачы, бо сам вяртаўся такім псіхалагічна, якім быў некалі. Заслуга І. Шамякіна ў тым, што ён, мабыць, першы пісьменнік, які заўважыў і паказаў псіхалагічную драму ў звароце салдата дамоў. У аснове канфлікту паміж Максімам Лескаўцом і каханай Машай, якая чакала яго аж шэсць гадоў і якую Максім, вярнуўшыся, адвергнуў, вельмі жыццёвая і ў той час і надзённая сітуацыя. У час, калі шмат якія творы абыходзілі рэальныя цяжкасці ў жыцці калгаснай вёскі, І. Шамякін заўважыў некаторыя з тых праблем, якія пазней сталі прадметам спецыяльнай увагі партыі і ўрада. У разрыве Максіма з Машай, разрыве як быццам прама нематываваным, які шмат даставіў клопатаў крытыкам, крылася адгадка, пакуль што толькі псіхалагічная, некаторых непажаданых з'яў, характэрных для калгаснай вёскі напярэдадні XX з'езда КПСС. Створаны ў часы панавання «тэорыі бесканфліктнасці» раман «У добры час» меў асобныя вострыя драматычныя моманты, яго змест не быў зусім ужо бесканфліктны і бестурботны.

Раман «Крыніцы» (1956) ужо смела і адкрыта ўмешваўся пафасам свайго зместу ў ход грамадскага жыцця. У ім даследуецца тыповая сітуацыя таго часу, калі пісаўся раман, — барацьба дзвюх супроцьлеглых тэндэнцый светаразумення. Адну з іх увасабляе Бародка — чалавек з бюракратычна-чыноўніцкай псіхалогіяй, маніяй уласнай велічы, а другую — Лемяшэвіч, які імкнецца ісці ў нагу з часам.

Раман «Крыніцы» вызначаўся, як гэта цяпер добра відаць, дакладнай у часе сацыяльнай і псіхалагічнай характарыстыкай станоўчага героя, барацьбіта за новае. У вельмі многіх творах, у якіх паказвалася барацьба новага са старым, ідэалізаваўся вобраз барацьбіта за новае, чыста літаратурна, адвольна, без суадносін з жыццём перабольшваліся яго здольнасці і магчымасці. І. Шамякін, да гонару пісьменніка, адчуў некаторую сацыяльную стрыманасць свайго героя і паказаў Лемяшэвіча без ідэалізацыі, па яго патэнцыях такім, якім падобны сацыяльны тып быў тады ў сапраўднасці. У Лемяшэвічы, калі раман выйшаў у свет, не магла не насцярожыць адсутнасць баявой ініцыятывы, хоць ён хадзіў у барацьбітах. Ён толькі тады адважваецца на супроцьдзеянне Бародку, калі той нахабна актыўны.

Здаецца, цяпер само жыццё паказала, што Лемяшэвіч у барацьбе за новае мог рабіць роўна столькі, на колькі здатны быў чалавек тагачаснага ўзроўню грамадскай свядомасці. Вядома, у сутыкненні Лемяшэвіча з Бародкам выяўляецца яго грамадзянская пазіцыя, але ў гэтай сваёй пазіцыі ён так і не здолеў падняцца ад «дуэлі» з Бародкам па канкрэтных, часта нязначных, арганізацыйных справах да выпрацоўкі закончанай і канкрэтнай сістэмы поглядаў паслядоўнага барацьбіта за новае. Паказаўшы свайго героя не горшым і не лепшым, чым ён быў у самім жыцці, І. Шамякін выявіў зайздросную якасць раманіста — здольнасць чуць глыбіннае дыханне часу.

Асобныя рысы Лемяшэвіча як сацыяльнага тыпу наследуе Шыковіч—герой рамана «Сэрца на далоні» (1963). З нейкай доляй дапушчэння можна сказаць, што Шыковіч — гэта Лемяшэвіч праз пяць-шэсць гадоў. Маючы, як і Лемяшэвіч, шмат станоўчых рыс, ён паўтарае яго недахопы—недастатковую актыўнасць і паслядоўнасць у барацьбе за новае. Барацьба Шыковіча з Гуканам — бюракратам і кар'ерыстам—часам нагадвае звычайную цяганіну.

Але ў новым рамане пісьменнік ужо бачыць і раскрывае канкрэтную прычыну такіх паводзін свайго героя. Шыковіч—як характар, як тып склаўся не без уздзеяння гуканаў. Адсюль і яго непаслядоўнасць і нерашучасць.

Раман «Сэрца на далоні» з'явіўся крокам наперад у творчай біяграфіі пісьменніка яшчэ і таму, што ён шматпраблемны. Калі «Крыніцы» непасрэдна павернуты да сучаснасці пасутнасці толькі адной сюжэтнай лініяй Лемяшэвіча — Бародкі, то «Сэрца на далоні»—цэлае «вязьмо» складаных надзённых грамадскіх праблем.

І. Шамякін як пісьменнік сучаснай тэмы добра ведае, што сучаснасць—гэта працяг мінулага, а мінулае — пачатак сучаснасці. Каб яшчэ глыбей пранікнуць у сучасныя праблемы, пісьменнік вельмі ўважлівы да таго, што стала гісторыяй. Нагляддаецца своеасаблівае «чаргаванне» яго ўвагі то да сучаснасці, то да мінулага не толькі ў межах аднаго твора, але і ва ўсёй творчасці наогул. Раманы, аповесці, апавяданні на сучасную тэму нібы суправаджаюцца, абрастаюць творамі-«спадарожнікамі» пра мінулае, якія маюць, вядома, самастойнае значэнне. Раман «Трывожнае шчасце» (1965), які складаецца з аповесцяў «Непаўторная вясна», «Начныя зарніцы», «Агонь і снег», «Пошукі сустрэчы» і «Мост», прысвечаны даўно перажытаму і ўбачанаму. Не цяжка заўважыць, што існуе змястоўная і ідэйная сувязь паміж гэтымі аповесцямі і амаль што ўсімі творамі пісьменніка пра сучаснасць. Веданне мінулага ў І. Шамякіна не абстрактна філасофскае, а таксама мастацкапраблемнае, што абвастрае зрок пісьменніка — даследчыка сучаснасці.

Самы значны твор І. Шамякіна апошніх гадоў — раман «Снежныя зімы» (1968). Ён яшчэ раз засведчыў, з якой імклівасцю здольны гэты пісьменнік урывацца ў сённяшнюю яву, з якой выдатнай дакладнасцю выхопліваюцца ім адтуль тыповыя характары, праз эвалюцыю якіх пераканаўча раскрываюцца важнейшыя канфлікты бягучага дня.

Галоўны герой рамана Антанюк — персанаж на дзіва жывы і тыповы менавіта для сённяшняга моманту. Ён пастаўлены пісьменнікам у такую моцную «кантэкставую» сувязь з грамадскім жыццём, што па яго паводзінах і думках можна меркаваць, куды рухаецца наш час.

Хоць Антанюк, безумоўна, станоўчы герой пісьменніка, як Лемяшэвіч і Шыковіч, але, мабыць, з параўнання характару Антанюка з характарамі яго папярэднікаў не будзе ніякага сэнсу, бо ён далей нашмат ад іх, чым кожны з іх адзін ад другога. Пісьменнік адкрыў свайго станоўчага героя ў асяроддзі людзей кіруючага апарата, да якога ў папярэдніх раманах належалі і адмоўныя героі Бародка і Гукан.

Параўноўваць вобраз Антанюка з вобразамі Лемяшэвіча і Шыковіча будзе элементарна няправільна ўжо хоць бы з тае прычыны, што ён не бярэ на сябе і не збіраецца браць функцыі барацьбіта са старым у імя нейкіх новых ідэалаў. Такіх персанажаў у «Снежных зімах» зусім няма. Антанюк — просты, звычайны чалавек, хоць і займае высокую пасаду. Ён заўсёды быў дысцыплінаваны служачы. І толькі адзін раз выказаў прафесійную кампетэнтнасць, абараняючы травасеянне. За гэта яго знялі з пасады і паслалі яшчэ маладога, працаздольнага на пенсію. А калі пасля ўсе прызналі — і тыя, хто здымаў Антанюка з пасады таксама,— што ён адстойваў правільнае меркаванне, яго на ранейшую пасаду не прымаюць усёроўна, хоць думкі Антанюка па пытаннях травасеяння скарыстоўваюць у дакладах і выдаюць за свае.

Вось гэтую супярэчнасць, відавочную «нелагічнасць» падзей вакол асобы Антанюка і разглядае з мастацка-даследчыцкім прыцэлам І. Шамякін. А таксама — лёс самога героя, які ўблытаўся ў гэтыя падзеі.

Праціўнікі Антанюка—яго ж былыя сябры па службе. У сваіх грамадскіх паводзінах яны нечым вельмі істотным нагадваюць знакамітага Грацыянскага з рамана Л. Ляонава «Рускі лес». І. Шамякін паказаў, што падобны тып людзей, змяніўшыся і прыстасаваўшыся да новых умоў, жыве і гэтак жа шкодзіць усенароднай справе. Для праціўнікаў Антанюка, як і для Грацыянскага, зусім не важна, робяць яны правільна ці не. Для іх важней трымаць нос па ветры. Сёння яны могуць гаварыць адно, а заўтра—супроцьлеглае, але паказваюць, што яны заўсёды стаяць на правільнай пазіцыі. І жывуць яны не гэтак са сваёй працы, як з таго, што даюць, як і Грацыянскі, «правільныя» ўказанні. Правата Антанюка для іх зусім недастатковы фактар, каб прыняць яго назад на працу. Хай у яго будзе ў сто разоў болей праваты, яны ўсёроўна яго не прымуць, калі гэта будзе залежаць толькі ад іх, бо, зрабіўшы адзін раз не так, як яны, ён застаўся для іх назаўсёды падазроным чалавекам, нягледзячы на яго былыя заслугі і былое сяброўства.

У сутыкненні са сваімі праціўнікамі перамога Антанюка толькі маральная. Дабіцца, каб яго прынялі на ранейшую пасаду, ён так і не здолеў. Гэтым пісьменнік падкрэслівае, якім сур'ёзным і важным у грамадскім значэнні з'яўляецца канфлікт, раскрыты ў рамане. «Снежныя зімы» ці не адзіны раман пісьменніка, які заканчваецца не зусім шчасліва.

Узрасло ўменне пісьменніка адлюстроўваць у мастацкім творы бягучы дзень нашага жыцця. Характары і калізіі сталі больш верагоднымі і натуральнымі. У стварэнні паэтыкі рамана на сучасную тэму І. Шамякін ўнёс вельмі важкі і арыгінальны ўклад.

Пісьменніку спаўняецца пяцьдзесят гадоў. Гэта пара росквіту таленту. Будзем спадзявацца, што яшчэ шматшмат разоў у яго творах з'явіцца перад чытачом хвалюючы воблік бягучага часу, з'явіцца ва ўсёй выразнасці і складанасці, ва ўсёй філасофскай асэнсаванасці і глыбіні, каб памагчы жыць і змагацца за светлыя ідэалы жыцця.

НА МОВАХ СВЕТУ...









# ПАЭТ КРАСЫ І РЭВАЛЮЦЫІ

## Да 80-годдзя з дня нараджэння Паўло ТЫЧЫНЫ



*Выдатны ўкраінскі паэт Паўло Тычына ўвайшоў у літаратуру ў пачатку дваццатых гадоў і быў адразу ж прызнаны грамадствам. Яго самабытны голас вылучаўся ў паэтычным хоры сучаснікаў сваёй свежасцю, шырокім дыяпазонам і артыстычнасцю. Арганічна ўвабраўшы ў сябе багацце і хараство ўкраінскага фальклору, Тычына здолеў спалучыць народныя першакрыніцы з дасягненнямі сусветнай паэзіі і хутка выйшаў наперад як змагар і наватар.*

*Калісьці Аляксандр Блок заклікаў «слухаць музыку рэвалюцыі». Паўло Тычына ўмеў не толькі слухаць, а зрабіўся адным з самых актыўных песняроў рэвалюцыі, прысвяціўшы ёй і жыццё, і творчасць. Грамадзянская накіраванасць яго вершаў, іх філасофская завостранасць, глыбіннае пазнанне рэчаіснасці, выяўленыя ў дасканала скампанаванай мілагучнай форме, аптымізм, непахісная вера ў шчаслівую будучыню чалавецтва акрыляюць і загартоўваюць чытача. Паэт высокай культуры, акадэмік і грамадскі дзеяч, Паўло Тычына напісаў шмат. Не ўсё ў яго спадчыне раўнацэннае, але многія яго творы даўно ўжо сталі савецкай класікай.*

*Прапануем некалькі яго вершаў у перакладах Юркі Гаўрука.*

●

Перад цэрквою на плошчы
рэвалюцыя ідзе.
— Хай чабан! — усе гукнулі, —
атаманіць і вядзе.

Шчасця-долі, вольнай волі,—
гэй, на коні, ўсе на шлях!
Закіпела, зашумела,
палыхнуў чырвоны сцяг.

Перад цэрквою на плошчы
сумна мацерам старым:
ой ты, месячыку ясны,
асвяці дарогу ім!

Пыл на плошчы ападае.
Заціхае крок...
Вечар.
Змрок.

1918 г.

### ВЕЦЕР

Вецер.
Не вецер — бура!
Трушчыць, ламае, з зямлі
вырывае...

За чорнымі хмарамі
(з бліскам! ударамі!)
за чорнымі хмарамі мільён
мільёнаў жылістых рук...
Коціць, грукоча, ўразае
(ці то горад, дарога, ці луг)
у грудзі зямныя плуг.
У грудзі.

А на зямлі звяры і людзі,
багі і храмы:
о прайдзі, прайдзі над намі,
над зямлёю прайдзі —
новы дзень абудзі!
Такія былі ,што ўцякалі
ў пячоры, азёры, бары.
— Што там за сіла ўгары? —
пыталі.
І ніхто з іх не рад, не спяваў.
(Агнявога каня вецер гнаў —
агнявога каня —
ўночы —)

І толькі іх мёртвыя вочы
адлюстравалі красу новага дня!
Вочы.

1919 г.

### ЛІСТЫ ДА ПАЭТА

*ТРЫПЦІХ*

I.

Элады карта, Кацюбінскі,
на этажэрцы лебедзь...
Хоць мой пакой і невялічкі,
заходзьце калі-небудзь!

Я прывітаю Вас як друга,
вы ў маіх думках — першы:
я з захапленнем, са слязамі
чытала Вашы вершы.

Вясна мне сніцца, сонца, спевы,
хтось грае на кларнеце, —
і вось я з Вамі ўжо знаёма,
мой дарагі паэце.

Прыходзьце сёння. Кветкі
ў вазе
з такім цудоўным пахам!
Чакаць Вас буду цэлы вечар
з надзеяю і страхам.

II.

Відаць, што Вы не з нашых сёл,
альбо... о не, не смею.
Чытала Вас я — і не ўсё,
не ўсё я разумею.

Ці ў полі я, ці ў лесе я —
заўсёды мне здаецца,
што ў кніжцы ў Вас няма
жыцця,
а тут жыве, смяецца...

Пра Вас нядаўна хтось пісаў:
«Паэзіі акраса».
А ўсё ж такі у Вас не так,
не так як у Тараса.

Пра ўсё ў Вас ёсць: і за народ,
і пра нядолю краю.
А як да сэрца гэта ўзяць —
даруйце, я не знаю.

III.

Я камуністка, нашу «чужое»,
абрэзала касу.—
І Вам не сорамна, таварыш,
спяваць пра сонца, пра красу?

Я Вам пішу, бо маю права,
прашу мне даць адказ:
каму Ваш спеў патрэбен дохлы
ў наш гераічны час?

Народу, скажаце? галодным?—
Як можна паважаць руку,
што трыялецікі падносіць
працаўніку?

Прашу не крыўдзіцца,
бывайце —
тут не любоўны ліст.
Але скажу: Вы — сіла,
з Вас можа выйсці камуніст.

1920 г.

# БРАКАНЬЕРЫ

**Заканчэнне. Пачатак на 6-й і 7-й стар.**

Вось толькі некалькі з мноства фактаў, занатаваных у Дзяржкамітэце па ахове прыроды.

Летам мінулага года экспедыцыя Беларускага аддзялення Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута паляўнічай гаспадаркі, якая выехала ў басейн Нёмана для навуковага адлову баброў, была папярэджана мясцовымі жыхарамі, што на ўчастку вёсак Дуброва-Бярозаўка звяроў штогод адстрэльваюць тутэйшыя паляўнічыя і потым прадаюць невядомаму грамадзяніну з Рыгі па 100 рублёў за сырую шкурку. Многія бабры, вылаўленыя экспедыцыяй, мелі траўмы механічнага паходжання — сляды ад куль і г. д.

А вось яшчэ. У Бабруйску на рынку гандлююць не толькі бабровай шкуркай і струменем, а і бабровым тлушчам па 5 рублёў за паўлітра.

Яшчэ. Па арыентыровачных падліках на Асвейскім возеры, што на Полаччыне, штогод здабываецца каля 3 тысяч галоў андатры, у той час як у нарыхтоўчую сетку трапляе не больш тысячы галоў.

Яшчэ. У Баранавічах у 1969 годзе на рынку было затрымана 14 чалавек, якія прадавалі шкуркі дзікіх жывёл, выробленыя саматужным спосабам.

Такі пералік можна працягваць бясконца.

На ўсё, вядома, ёсць свая прычына. У дадзеным выпадку попыт нараджае прапанову. І, на жаль, пакуль няма эфектыўнай сілы, якая б стала паміж гэтым попытам і гэтай прапановай.

Я гартаю шматлікія дакументы і дзіву даюся, як вальготна адчуваюць сябе падпольныя гандляры пушнінай. Аказваецца, кожнае атэлье прыме ў вас для пашыву любую шкурку саматужнага вырабу. Гэта ў той час, калі ў Палажэнні аб паляўнічай гаспадарцы БССР, зацверджаным пастановай Савета Міністраў рэспублікі ад 9 лістапада 1962 года, чорным па белым напісана, што «перапрацоўка сырых шкур і пушна-футраной сыравіны робіцца толькі дзяржаўнымі і кааператыўнымі прадпрыемствамі.., перапрацоўка, скупка, продаж і захаванне прыватнымі асобамі пушніны і шкур дзікай жывёлы, выраб з іх адзення і іншых прадметаў для рынка і асабістага карыстання забараняецца. Усё гэта прызнаецца прадукцыяй незаконнага палявання і ва ўсіх выпадках канфіскуецца без усякай кампенсацыі».

Закон — ёсць закон. Чаму ён у дадзеным выпадку ігнаруецца? Ды каб толькі «зацікаўленымі асобамі». Гэты закон, часам, ігнаруецца тымі, хто абавязаны стаяць на яго варце — работнікамі пракуратуры.

Летась у Брэсце работнікі абласной інспекцыі аховы прыроды ў атэлье «Галаўныя ўборы» выявілі 44 адзінкі дзікай пушніны, якая не мела дзяржаўнага кляйма. Згодна з правілам, гэтая пушніна была канфіскавана. Але за парушальнікаў закона заступіўся абласны пракурор А. Папельскі, які загадаў вярнуць шкуркі. Я чытаў гэты пракурорскі пратэст. У ім сцвярджаецца, што «правіламі не забараняецца прадпрыемствам прымаць ад грамадзян шкуркі саматужнага вырабу, што інспекцыя аховы прыроды не мае права рабіць агляд фабрычнай прадукцыі».

Усё наадварот! Вось, калі ласка, яшчэ адна вытрымка з «Палажэння аб паляўнічай гаспадарцы БССР»: «Органам Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па ахове прыроды прадастаўляецца права рабіць агляд прадукцыі палявання ў натуры на прыёмных пунктах, складах, базах і іншых сховішчах; правяраць таварныя, бухгалтарскія і іншыя дакументы, якія маюць дачыненне да нарыхтовак, перапрацоўкі і рэалізацыі прадукцыі паляўнічай гаспадаркі... Без кампенсацыі канфіскаваць і перадаваць па актах нарыхтоўчым (дапушчаным да нарыхтоўкі прадукцыі палявання) і гандлюючым арганізацыям для рэалізацыі ва ўстаноўленым парадку незаконна здабытай паляўнічай прадукцыі».

Што тут незразумела таварышу Папельскаму?

Будзем глядзець праўдзе ў вочы. Разгул браканьерства стаў магчымы толькі таму, што на яго шляху амаль няма перашкод, а тыя, што існуюць— малаэфектыўныя.

Здаецца, у рэспубліцы ёсць каму ахоўваць фауну. Гэта інспекцыі па ахове прыроды, работнікі лясной гаспадаркі, міліцыя, нарэшце, грамадскасць (у нас 10 тысяч грамадскіх інспектараў). Але тое, што прыгожа выглядае на паперы, жыццём, бывае, абвяргаецца.

Нагадаем такі прыклад. За першыя тры кварталы мінулага года лясной аховай было затрымана толькі 16,4 працэнта браканьераў, выяўленых у рэспубліцы. У 76 раёнах Беларусі лясная ахова не выявіла наогул ніводнага выпадку браканьерства.

Гэта невыпадкова. Работнікі Міністэрства лясной гаспадаркі не адказваюць за фауну. Лесніка могуць прыцягнуць да адказнасці за пажар у лесе, за самавольныя парубкі, за гібель маладняку, але ніхто не спытае, чаму на яго ўчастку зніклі, скажам, ласі або дзікі. А, між тым, у рэспубліцы 12 тысяч леснікоў. Уявіце, якая гэта сіла, якая гэта магла б быць заслона для браканьераў (пакуль што, на думку старшыні прэзідыума рэспубліканскага таварыства паляўнічых і рыбаловаў П. Лугаўцова, самі леснікі, часам, уяўляюць небяспеку для лясного звера).

Вялікая сіла і грамадскасць. Але з кожным годам усё цяжэй працаваць тым жа грамадскім інспектарам. Чаму? Стаў нахабны браканьер. Адзін на адзін з ім лепш не сустракацца. Добра, калі толькі аблае. А то можа і стрэліць...

Так летась здарылася ў Пінскім раёне, дзе браканьер, нейкі К. Страковіч, цяжка параніў грамадскага інспектара М. Гладышэўскага. Спачатку мясцовая Феміда павярнула справу так, што вінаватым аказаўся пацярпеўшы. І толькі пасля ўмяшання грамадскасці, раённай, абласной і рэспубліканскай газет, суд над Страковічам усё ж адбыўся. Але асудзілі злачынцу на паўтары гады ўмоўна. Абгрунтаванне? Страляў у чалавека першы раз!..

Але нават калі «смірнага» браканьера ўдаецца даставіць у міліцыю, дык часцей за ўсё ён абыдзецца «лёгкім спалохам».

Летась у Крычаўскім раёне грамадзяне У. і В. Міхальчанкі былі злоўлены інспекцыяй на месцы злачынства — яны забілі двух баброў. Справа была перададзена ў Крычаўскі аддзел унутраных спраў, дзе яе паціху спусцілі на тармазах. Міліцыя паведаміла Магілёўскай абласной інспекцыі аховы прыроды, што мер ніякіх не прынята, бо браканьеры... не мясцовыя жыхары, а прыехалі па бабровую шкурку... адзін з Ленінграда, другі з Варкуты...

У радзе месц і міліцыя, і мясцовыя Саветы чамусьці лічаць браканьерства «птушыным грэхам». Як расказвае старшы інжынер Віцебскай абласной інспекцыі па ахове прыроды М. Яськін, у Лёзненскім раёне быў нядаўна такі выпадак. Браканьеры забілі ласіху і ласянё. Народны суд пастанавіў спагнаць з іх 600 рублёў, а адміністрацыйная камісія райвыканкома абмежавалася чамусьці толькі папярэджаннем.

А вось яшчэ факт. Работнік Маларыцкай школы-інтэрната Кіюнчык і работнік РАНА Рудніцкі знайшлі ў лесе касулю, якая знясілела, і прырэзалі яе, а мяса падзялілі. Пакаранне? Папярэджанне.

Я зноў звярнуся да статыстыкі (няхай чытач даруе, але гэта неабходна). У 1969 годзе толькі 46,6 працэнта браканьераў у рэспубліцы былі аштрафаваны (і то ў мінімальных памерах — ад 6 да 8 рублёў, хоць існуе і максімальны штраф — 20 рублёў), амаль усе астатнія былі толькі папярэджаны. Такая ж карціна і ў мінулым годзе.

Вышэй ужо гаварылася, што значная, калі не пераважная частка браканьераў — людзі, якія не маюць паляўнічых білетаў. Затое яны маюць зброю.

П. Лугаўцоў, які многа ездзіў па рэспубліках, бываў і ў брацкіх краінах, расказвае, што, напрыклад, у нашых суседзяў-літоўцаў практычна няма браканьерства. Адна з прычын — там паляўнічая зброя ёсць толькі ў членаў таварыства. А ў нас? Толькі ў Мінску налічваецца каля 5 тысяч незарэгістраваных паляўнічых стрэльбаў. І калі органы аховы прыроды ўзнімаюць пытанне аб канфіскацыі гэтай зброі, з пратэстам выступае пракуратура, маўляў, гэта прыватная ўласнасць, і ніхто не мае права яе чапаць. І наогул, чалавек, які купіў зброю, не абавязкова пойдзе з ёю ў лес.

Цікава, для чаго ж ён набыў яе? Як цацку?

У браканьера мараль вядомая — «пасля мяне хоць патоп». Ён спажывец. Ён выбягае ў чыстае поле, прадзіраецца праз лясныя зараснікі з адной толькі думкай—«узяць».

Не дадзім! Дзеля нас, дзеля нашых нашчадкаў.



# ЗВОНКІХ ПЕСЕНЬ ДАР

25 СТУДЗЕНЯ ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся справаздачны канцэрт лаўрэата Усесаюзнага фестывалю самадзейнага мастацтва, народнай харавой капэлы Магілёўскага гарадскога Дома культуры (мастацкі кіраўнік і дырыжор У. Башко, канцэртмайстар У. Шчэрба). Высокі гонар выступіць у Мінску магіляўчане заслужылі за шчырую і даўнюю любоў да песні (калектыў працуе ўжо 14 гадоў), беражлівае стаўленне да яе, высокую культуру спявання і вялікую грамадскую работу, якую праводзіць капэла па прапагандзе лепшых твораў савецкіх кампазітараў, рускай і зарубежнай класікі, народнай песні.

Людзі розных прафесій звязалі свой лёс з песняй. Спяваюць у капэле ветэран хору, былы выкладчык гісторыі, а зараз пенсіянер Міхаіл Кунрыянавіч Каранковіч, медсястра Людміла Сакалова, слесар Леанід Іваноў, мантажнік Сяргей Князеў, выкладчыца педвучылішча Разалія Анціпенка, майстар быткамбіната Эдуард Шыманоўскі, выкладчык машынабудаўнічага інстытута Ігар Кузьменка, сябруюць з песняй матэматыкі і фізікі магілёўскіх школ Еўдакія Андрэева, Валяр'ян Вярэшня і многія іншыя.

Капэла — дружны калектыў аднадумцаў, якіх згуртавала любоў да песні, да мастацтва. Хор нязменны ўдзельнік і пераможца аглядаў самадзейнага мастацтва — гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх. З поспехам выступалі магіляўчане ў Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі, у Таліне, Львове, Балгарыі.

Адкрываецца заслона, і ў залу льецца поўная мужнасці мелодыя — урывак з кантаты «Дарогай Леніна» А. Далуханяна. А пасля хор праспяваў песні беларускіх кампазітараў — «Партызанскія акопы» Р. Пукста на словы М. Танка, «Беларусь, мая песня» Ю. Семянякі на словы А. Бачылы. Добрае ўражанне пакінулі беларускія народныя песні «А ў полі вярба», «Там за садамі», «Каціласяя чорна галка» ў апрацоўцы С. Стальмашчука. Хораша гучыць песня аб родным Прыдняпроўскім краі, яго людзях, іх ратных подзвігах і працоўных поспехах «Магілёўшчына мая» Д. Смольскага (словы П. Прыходзькі). Шчырыя апладысменты слухачоў выклікае выкананне рускіх народных песень «Степь да степь кругом...» і «Эй, ухнем». Значнае месца ў праграме канцэрта занялі творы рускай і зарубежнай класікі — Арэнскага, Танеева, Шумана, Моцарта, Расіні.

Карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва» папрасіў некалькіх дзеячоў мастацтва рэспублікі падзяліцца ўражаннямі аб гэтым канцэрце. Вось што яны сказалі:

**Віктар РОЎДА,**
**загадчык кафедры харавога дырыжыравання, дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР:**

— *Сённяшні канцэрт заслугоўвае пахвалы. Арганізатары яго — Рэспубліканскі Дом народнай творчасці і Магілёўскае абласное ўпраўленне культуры. Добрую справу трэба прадоўжыць. Мяне асабіста пакарылі маладосць і свежасць галасоў удзельнікаў капэлы, добрая балансіроўка мужчынскіх і жаночых галасоў. Удала падабраны рэпертуар. У капэле беражліва ставяцца да тэксту, да думкі твора. Разам з тым, не заўсёды апраўдана трактоўка асобных твораў, часам парушаецца аўтарская задума. Якое пажаданне? Не спыняць работу, настойліва працаваць над вакалам, каб усе творы, у тым ліку і класічныя, гучалі сапраўды па-майстэрску.*

**Уладзімір РАГОВІЧ,**
**галоўны хормайстар Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР:**

— *Поспехі самадзейных спевакоў парадавалі. Мужчынская група хору гучыць кампактна, чыста па інтанацыі. Жаночым жа галасам, на маю думку, нестае яшчэ мяккасці, цеплыні, акругленасці гуку.*

**Канстанцін ПАПЛАЎСКІ,**
**музычны кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР:**

— *Для мяне канцэрт магіляўчан — свята. Я даўно сачу за іх ростам, радуюся іх поспехам, засмучаюся недахопамі. Калектыў за апошні час прыкметна пасталеў, многія творы спявае надзвычай чыста, прафесіянальна. Добрая, свежая інтэрпрэтацыя народнай песні «А ў полі вярба». Бездакорна інтанацыйна выканалі спевакі такі складаны твор, як «Летуценні» Шумана, хаця і крыху паспешліва. Такія канцэрты трэба наладжваць сістэматычна. У кожнай вобласці ў нас ёсць харавыя капэлы, ёсць і добрыя народныя хоры. Няхай яны пакажуць сваё майстэрства, пазнаёмяць мінчан з самастойнай канцэртнай праграмай.*

**Мікалай МАСЛАЎ,**
**дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР:**

— *Мы былі сведкамі цікавага канцэрта. Мяне парадавала мужчынская група хору, галасы якой гучаць маляўніча. Прыемна, што ў капэле беражліва ставяцца да народнай песні. Але, мне здаецца, што нявapта было выконваць тры песні ў апрацоўцы аднаго і таго ж аўтара, гэта непазбежна вядзе да пэўнай аднастайнасці.*

**Мікалай ЗОРЫН,**
**заслужаны артыст БССР:**

— *А мне хочацца сказаць «брава»! Спявалі магіляўчане добра, хвалююча. Іх прыемна было слухаць. Адна толькі заўвага: рэпертуар канцэрта надзвычай складаны, таму нявapта было спевакам даваць выконваць узапар творы аднолькава цяжкія. Пажадана ў такіх канцэртах нейкая разрадка.*

□

Народны артыст СССР Рыгор Шырма прыслаў калектыву тэлеграму, у якой піша: **«Віншую дарагіх сяброў— кіраўнікоў і ўдзельнікаў народнай харавой капэлы з вялікім поспехам, радуюся і ў думках апладзірую. Сейце разумнае, добрае, вечнае. Будзьце здаровы!».**

На канцэрце прысутнічала намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжкова.

# У САЮЗЕ КАМПАЗІТАРАЎ

**Праўленне Саюза кампазітараў БССР арганізавала праслухоўванне твораў нацыянальнай сімфанічнай музыкі для студэнтаў Беларускага політэхнічнага інстытута. Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам дырыжора Юрыя Яфімава выканаў Першую сімфонію Рыгора Суруса, паэму «Фрэскі» Андрэя Мдзівані і Канцэрт для скрыпкі з аркестрам Пятра Падкавырава. Саліраваў Раман Нодэль. З той жа праграмай аркестр выступіў перад воінамі Савецкай Арміі.**

●

**З поспехам прайшоў канцэрт беларускай камернай музыкі ў Кіеве, у Доме кампазітара. Гасцямі кіяўлян былі кампазітары Дзмітрый Камінскі, Ігар Лучанок, музыказнаўца Браніслаў Смольскі, а таксама выканаўцы —Ева Эфрон, Тамара Шымко, Леў Гарэлік, Юрый Смірноў, Анатоль Бокаў і Яўген Гладкоў. Хутка чакаецца прыезд украінскіх музыкантаў з візітам у адказ.**

●

**Са студэнтамі Мінскага педагагічнага інстытута сустрэліся Рыгор Шырма, Генрых Вагнер і Анатоль Багатыроў. Пасля гутаркі адбыўся канцэрт беларускай харавой музыкі ў выкананні Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы.**

●

**У гонар 80-годдзя Мікалая Ільіча Аладава быў наладжаны аўтарскі канцэрт з твораў кампазітара. Слухачы горача прынялі яго Першую сімфонію і вакальна-сімфанічную паэму «Дарогамі барацьбы і перамог». Творы выконваліся Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР (дырыжор Віталій Катаеў), хорам Беларускага тэлебачання і радыё (хормайстар Віктар Роўда) і салістамі.**

●

**У зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі адбыўся аўтарскі канцэрт заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Пятра Падкавырава, прысвечаны 60-годдзю кампазітара. Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам Юрыя Яфімава выканаў Другую сімфонію юбіляра, а таксама яго скрыпічны і фартэпіянны канцэрты. У канцэртах саліравалі Раман Нодэль (скрыпка) і Віктар Нядзелька (фартэпіяна).**

●

**З новай операй па аднайменным творы А. Блока «Балаганчык» кампазітара Алега Янчанкі пазнаёміліся аматары музыкі на гэтым тыдні. Опера прагучала ў канцэртным выкананні артыстаў тэатра оперы і балета і філармоніі. Аркестравым ансамблем філармоніі дырыжыраваў аўтар.**

**У аўтарскім канцэрце кампазітара прагучалі таксама Канцэрт для віяланчэлі і духавога квінтэта. Канцэрт № 2 для аргана з аркестрам і трыо.**

# ПАД ЖАЗЛОМ МЕРКУРЫЯ

## РЭПАРТАЖ З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ГАНДЛЁВАЙ ПАЛАТЫ

У СТАРАЖЫТНЫМ Рыме Меркурый лічыўся богам, апекуном гандлю. Яго малявалі то сталым барадатым мужам, то бязвусым хлопцам з жазлом у руцэ, у сандалях з крылцамі, чым падкрэслівалася яго ўсюдыіснасць.

І ў нашы дні на эмблемах многіх гандлёвых фірм, банкаў, параходстваў намаляваны Меркурый, які, вядома ж, спрыяе ў гандлёвых справах. Жазло Меркурыя і перакрыжаваныя серп і молат — эмблема Усесаюзнай гандлёвай палаты і яе беларускага аддзялення.

— Наша задача — садзейнічаць развіццю і ўмацаванню эканамічных і гандлёвых сувязей паміж краінамі, — расказаў карэспандэнту «Літаратуры і мастацтва» Р. Бакуновіч кіраўнік беларускага аддзялення Усесаюзнай гандлёвай палаты Іван Емяльянавіч Сталівоненка.—Але перш чым расказваць пра штодзённы наш клопат, хачу падкрэсліць, што гандлёвая палата — арганізацыя грамадская, незалежная ад якіх бы там ні было ведамстваў. У яе свой статут, свае органы кіравання, свае сродкі, якія складаюцца з паявых узносаў членаў палаты, а таксама ад аплаты яе паслуг.

— Хто з'яўляецца членам Беларускага аддзялення гандлёвай палаты?

— Усе буйныя прадпрыемствы рэспублікі, што пастаўляюць сваю прадукцыю на экспарт. А іх больш за трыста.

Сёння нашы эксперты працуюць на базах арганізацый, якія гандлююць адзеннем, абуткам, культтаварамі, трыкатажам, гароднінай, а таксама ў магазінах, на фабрыцы імя Крупскай, на Мінскім трактарным заводзе, у Белдзяржуніверсітэце...

Вы, мабыць, здзіўлены такім шырокім дыяпазонам нашай дзейнасці. Але ў гэтым няма нічога дзіўнага. За апошнія гады нашы знешнегандлёвыя сувязі настолькі выраслі, што эксперт гандлёвай палаты стаў неабходнай фігурай амаль на кожным прадпрыемстве. Прывяду некалькі лічбаў. У 1962 годзе Беларускае аддзяленне Усесаюзнай гандлёвай палаты зрабіла 3975 экспертыз, летась—36151.

— З чаго складаюцца абавязкі эксперта?

— Гандлёвыя здзелкі з замежнымі фірмамі, заключэнне дагавораў на пастаўку тавараў праводзяцца на падставе ўзораў і адпаведнай тэхнічнай дакументацыі.

Дык вось — увесь тавар, усю партыю павінен праглядзець эксперт. На падставе экспертыз, у тым ліку і лабараторных, робіцца заключэнне аб якасці тавару. У выпадку неадпаведнасці якасці стандарту складаецца акт экспертызы, паводле якога пастаўшчык абавязан заплаціць няўстойку. Зразумела, што ўсе разлікі з замежнымі фірмамі ідуць у валюце.

— А бывае, што эксперт бракуе пастаўкі?

— На жаль, так. У 1969 годзе па розных дэфектах вытворчага і канструктыўнага характару намі забракавана імпартнае абсталяванне на 940000 рублёў толькі для Навапалацкага хімічнага камбіната. А вось свежыя факты. Летась цалкам забракавана партыя жаночых блузак, пастаўленых японскай фірмай «Нічымен», усяго на 39,7 тысячы рублёў, партыя мужчынскіх паліто заходнеберлінскай фірмы «Тэрагандэльс» — на 698,8 тысяч рублёў. Усяго ў 1970 годзе Беларускім аддзяленнем гандлёвай палаты забракавана і паніжана ў гатунку, а, значыцца, сэканомлена дзяржаўных сродкаў на 16,5 мільёна рублёў.

— Якія тавары Беларусь купляе і якія прадае?

— Гандлёвы баланс нашай рэспублікі актыўны, г. зн. мы больш вывозім, чым увозім. У 82 краіны свету ідуць машыны, станкі, абсталяванне з Беларусі. А ўвозім мы пераважна тавары шырокага ўжытку, часткова дакладныя прыборы і спецыяльнае абсталяванне.

— Якасць тавараў, што вывозяцца за мяжу, таксама правярае эксперт гандлёвай палаты?

— Не, пра гэта клапоціцца Міністэрства знешняга гандлю СССР. Мы ж, Беларускае аддзяленне гандлёвай палаты, рэкламуем экспартныя тавары, складаем для іх праспекты, каталогі, плакаты, эмблемы, этыкеткі, упакоўкі і г. д. Для гэтага ў нас ёсць мастацкі савет. Апрача таго, мы ажыццяўляем пераклады ўсёй дакументацыі, навукова-даследчай інфармацыі, артыкулаў, кніг на розныя мовы. Нашымі штатнымі і няштатнымі перакладчыкамі апрацоўваецца да дзвюх тысяч аўтарскіх аркушаў у год.

І яшчэ адзін вялікі ўчастак работы гандлёвай палаты — арганізацыя міжнародных выставак. Беларускім аддзяленнем праведзена больш чым 30 выставак прадукцыі замежных фірм.

— Якія выстаўкі вы плануеце паказаць у бліжэйшы час?

— Папярэдні план зарубежных выставак у нас ёсць. Яго нельга яшчэ назваць каляндарным. Пакуль мы абмяркоўваем умовы, тэрміны і г. д. У бліжэйшыя дватры гады думаем арганізаваць для мінчан выстаўку па спектраграфіі і спектральным аналізе па просьбе Акадэміі навук БССР. У ёй прымуць удзел амаль 10 краін свету.

Найноўшае абсталяванне для малочнай і харчовай прамысловасці, прыборы с праграмным кіраваннем для станка- і машынабудавання, якія выпускаюць прадпрыемствы сацыялістычных краін, таксама будуць дэманстравацца на нашай выстаўцы.

Сістэма арганізацыі і кіравання сучасным прадпрыемствам — адна з актуальных праблем народнай гаспадаркі. Вылічальную тэхніку і канторскія машыны для эканамістаў пакажуць фірмы Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Думаю, што будзе цікавай для гледача такая экспазіцыя, як «Фінская ўпакоўка і афармленне тавараў». Новае ў бытавым абслугоўванні, у прыватнасці, у аўтасервісе, абсталяванне для школьных лабараторый, а таксама ўсё для адпачынку і спорту — вось прыкладна тыя тэмы зарубежных выставак, якія мы плануем арганізаваць у бліжэйшыя два гады.

Вось далёка не поўнае кола пытанняў, якія стаяць перад работнікамі Беларускага аддзялення Усесаюзнай гандлёвай палаты — арганізацыі, якая заклікана ахоўваць інтарэсы дзяржавы, а тым самым і пакупнікоў ад дрэнных тавараў, а, з другога боку, — наладжваць і развіваць эканамічныя і гандлёвыя сувязі.



# Уладзімір Іосіфавіч УЛАДАМІРСКІ

Савецкае тэатральнае мастацтва панесла вялікую страту. Пасля цяжкай і працяглай хваробы, на 78-м годзе жыцця памёр выдатны майстар савецкай сцэны, народны артыст Саюза ССР, член КПСС Уладамірскі-Малейка Уладзімір Іосіфавіч.

У. І. Уладамірскі-Малейка нарадзіўся 19 кастрычніка 1893 года. Сваю сцэнічную дзейнасць ён пачаў у 1920 годзе ў чырвонаармейскай мастацкай самадзейнасці. З 1920 па 1924 год працаваў артыстам гарнізоннага і гарадскога тэатра ў г. Бабруйску, а з 1924 г. няспынна працаваў артыстам Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Апошнія гады У. І. Уладамірскі-Малейка знаходзіўся на пенсіі.

У. І. Уладамірскі-Малейка быў акцёрам яркага таленту, які стварыў цэлую галерэю разнастайных высокамастацкіх вобразаў: Леапольд Гушка — у «Бацькаўшчыне» К. Чорнага, Дыбаў у «Міжбур'і» Д. Курдзіна, Цыганок у «Гуце» Р. Кобеца, Мурзавецкі ў «Ваўках і авечках», Юсаў у «Даходным месцы» А. Астроўскага, Каламійцаў у «Апошніх» М. Горкага і многія іншыя. Гэтыя работы, адзначаныя высокім выканаўчым майстэрствам, раскрылі шматграннасць і шырыню яго таленту, здабылі папулярнасць і прызнанне гледачоў.

За выдатныя дасягненні ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва У. І. Уладамірскі-Малейка ўзнагароджан двума ордэнамі Леніна, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі і Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Светлая памяць пра У. І. Уладамірскага-Малейку, выдатнага мастака і чалавека, які ўсё сваё жыццё аддаў служэнню народу, надоўга застанецца ў нашых сэрцах.

МАШЭРАЎ П. М., КІСЯЛЁЎ Ц. Я., ЛАБАНОК У. Е., МАКАРАЎ І. М., МІЦКЕВІЧ У. Ф., ПІЛАТОВІЧ С. А., ПАЛЯКОЎ І. Я., ПРЫТЫЦКІ С. О., СМІРНОЎ А. А., СУРГАНАЎ Ф. А., ЖАБІЦКІ Г. М., ПОЛАЗАЎ М. Н., АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ Л. П., БРАВАРСКАЯ З. І., ГРАМЫКА В. А., КЛІМАЎ І. Ф., КЛІМАВА А. І., КАВАЛЁЎ М. В., КАНДРАШОЎ Т. А., КОРШ-САБЛІН У. У., КУЗЬМІН А. Т., МАРЦЭЛЕЎ С. В., МІНКОВІЧ М. А., МІХАЛЮТА І. Ф., ПАЛОСІН Я. М., ПРОКША Л. Я., РАХЛЕНКА Л. Г., РЖЭЦКАЯ Л. І., СНЯЖКОВА Н. Л., СТЭЛЬМАХ У. М., СТОМА З. Ф., М. ТАНК, ШАРАПАЎ В. І., ШЫРМА Р. Р.

## КУПАЛАВЕЦ ПЕРШАГА РАДУ

Самыя значныя старонкі станаўлення і росквіту нашага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы звязаны з натхнёнай і, я сказаў бы, самаахвярнай працай Уладзіміра Іосіфавіча Уладамірскага. Першыя п'есы нацыянальнага рэпертуару, створаныя Е. Міровічам, Р. Кобецам, Д. Курдзіным, К. Крапівой, Э. Самуйлёнкам, прадугледжвалі часта якраз яго ў галоўнай ці, у крайнім выпадку, у адказнай ролі. Пашырэнне тэматычных даляглядаў трупы БДТ-1 таксама адбывалася пры самым непасрэдным і зацікаўленым удзеле артыста. «Бранепоезд 14—69», «Апошнія», «Фронт», «Губернатар правінцыі», камедыі А. Астроўскага... Наша павага да такой колькасці спектакляў, сыграных калегам, самая шчырая.

Але паводле акцёрскага рахунку не колькасцю прываблівае нас той або іншы таварыш, а якасцю кожнага выступлення на сцэне. Мушу сказаць, што я не помню такога выпадку, каб Уладзімір Іосіфавіч выходзіў на тэатральныя падмосткі (ці то на акадэмічнай сцэне, ці то на платформе грузавога аўтамабіля ў часе выязных або шэфскіх спектакляў) без унутранага напалу, без святога артыстычнага хвалявання, без творчага ўздыму. Наогул, мабыць, найвялікшай праўдай для яго было халтурнае стаўленне кагосьці з партнёраў да прафесіянальных абавязкаў: гэтага ён не дараваў нікому. Што б ні было ў цябе дома ўчора, якія б службовыя непрыемнасці ні напаткалі цябе, будзь заўсёды ў форме і працуй па самых высокіх прынцыпах мастацтва! Пагадзіцеся, што адчуваць плячо такога пабраціма — гэта і прыемна, і адказна. Купалаўцы з плеяды Уладамірскага, з кагорты заснавальнікаў тэатра, сваім прыкладам падцягвалі ўсю трупу і вялі за сабой. І ўсе мы мабілізоўваліся для таго, каб быць хоць у некаторай ступені вартымі іх партнёрамі. Калі можна гаварыць пра этыку беларускай акадэмічнай сцэны, то зробленае Уладзімірам Іосіфавічам і тут мае надзвычай вялікае значэнне. Закуліснае жыццё, культура рэпетыцый, атмасфера напярэдадні прэм'еры, таварыская узаемадапамога — усё гэта складалася не ў адзін сезон і не па загадзе аднаго кіраўніка, а агульнымі намаганнямі трупы на працягу многіх гадоў. І тут вельмі часта Уладзімір Іосіфавіч быў самым паслядоўным будаўніком духу тэатра (а такі дух ёсць!).

У маладыя гады акцёр быў таленавітым ва ўсім — і ў спевах, і ў танцах, і ў акрабатыцы. З цягам часу ўмельства цалкам увасабляцца ў тую істоту, што даў яму драматург, набывала пэўную завершанасць, і наша рэжысура ўжо ведала пра тое, што Уладамірскі абмалюе характар глыбока і арыгінальна па ўнутранай лініі, абавязкова ў суладдзі з яркім знешнім вобразам. Калі цяпер я ў думках гартаю старонкі яго жыцця на сцэне, перада мной праходзіць галерэя зусім не падобных адзін да аднаго партрэтаў людзей розных па тэмпераменце і па звычках, па перакананнях і па густах.

Праводзіць такога мастака ў апошні шлях балюча, вельмі балюча...

**Уладзімір ДЗЯДЗЮШКА,**
народны артыст БССР.

## ЗАСНАВАЛЬНІК ДЫНАСТЫІ

На жаль, мне вельмі мала давялося бачыць Уладзіміра Іосіфавіча на сцэне. Але тое, што ўбачыла, запомніла на ўсё жыццё. У апошнія школьныя гады, калі толькі выкрышталізоўвалася маё захапленне тэатрам, я ўбачыла яго — Юсава ў «Даходным месцы» Астроўскага. Гэта было адно з самых яркіх уражанняў у жыцці. Як сёння бачу яго героя, які хавае пад рабскай прыніжанасцю і ўгодніцтвам вераломную хітрасць. Потым, калі я ўжо стала артысткай, я часта ўспамінала, якіх вяршынь майстэрства можа дасягнуць акцёр...

Сёння яго няма. Але нават у такі дзень мяне не пакідае пачуццё, што ён ёсць, ёсць! Ён працягвае сваё жыццё ў сыне — артысце купалаўскага тэатра, ва ўнуку — студэнце Беларускага тэатральнага інстытута...

**Рыма МАЛЕНЧАНКА,** заслужаная артыстка БССР.

## СМУТКУЮ!

Вестка аб смерці Уладзіміра Іосіфавіча Уладамірскага была нечаканай. Я сустрэўся з ім маладым, сам старэў, а ён заўсёды заставаўся для мяне чалавекам у росквіце сіл, энергічным, бясконца таленавітым. І вось цяпер я думаю над тым, што смерць аднолькава бязлітасная да ўсіх, нават да такога вялікага майстра, якім быў Уладамірскі.

Быў...

А яшчэ зусім нядаўна я атрымаў ад яго ліст і фатаграфію, дзе ён зняты з барадой і зухаватымі вусамі. Я берагу гэты партрэт. Гляджу на яго. Успамінаю. Успамінаю, як мы разам працавалі над вобразам Каламійцава з «Апошніх» Горкага. Шлях да вобраза быў цяжкі. Я як рэжысёр стараўся даць артысту як мага больш, але ён ніколі не прыходзіў на рэпетыцыю пусты: заўсёды быў перапоўнены новымі думкамі і пачуццямі, ідэямі. Працаваць з ім было асалодай. Гэтая роля прынесла Уладзіміру Іосіфавічу самае высокае прызнанне грамадскасці і тэатральнай крытыкі.

Вялікі мастак пакінуў нас, але ён назаўсёды з намі, з тымі, хто яго ведаў, працаваў, жыў побач. А моладзь заўсёды будзе імкнуцца спасцігнуць тыя вяршыні мастацтва, якія з такой самаадданасцю штурмаваў і здабываў Уладзімір Іосіфавіч.

**І. РАЕЎСКІ,**
народны артыст СССР,
рэжысёр МХАТа.

## НЕЗАБЫЎНЫ

Ён заўсёды браў публіку ў палон адразу, з першага выхаду на сцэну. І дагэтуль я памятаю, як імкліва раз'юшана ўрываўся яго Іван Каламійцаў у спектаклі «Апошнія» ў дом брата Якава, як гэты надзьмуты і фанабэрлівы сатрап абвяшчаў усім, што ён жывы, адчувае сябе, як кажуць, «на кані» і яшчэ пакажа сябе. Разам з ім, нібы шлейф, цягнулася разбэшчаная гатоўнасць жандара зацісніць любую думку і любы характар у кулак, сагнуць, прымусіць («Асадзі назад!»). Вобраз акцёр маляваў рэзкімі мазкамі, буйны і выразны, тыповы і жывы ў кожным кроку і ў кожным слове. А яго Апалон Мурзавецкі ў спектаклі «Ваўкі і авечкі» з першых рэплік паўставаў нікчэмным і прэтэнцыёзным дваранчыкам, здольным толькі на дробнае паскудства,—як аўтамат, ён круціўся каля чужога багацця, аблізваўся, спакушальна ўсміхаўся, спрабаваў жартаваць, каб толькі давесці, што і ў яго ёсць жа нейкае «я». А «я» і не было, быў дзіўнаваты прывід чалавека.

То сатырычна завостраны, то з дакладным псіхалагічным грунтам абмаляваны, то пададзены з камедыйным бляскам, персанаж Уладзіміра Уладамірскага заўжды бываў па-тэатральнаму яркі. Больш таго, бяру на сябе смеласць сказаць, што ён і не ўмеў быць шэрым, звычайным выканаўцам ролі. Яго артыстычны тэмперамент меў права называцца вулканічным. А гэта не такая лёгкая для акцёра манера жыць на сцэне — тут трэба ўмець смела перабудоўваць свой псіхафізічны апарат на той градус мастацкага напалу, што табе падказвае драматург. Толькі вывучыць тэкст і выконваць распрацаваныя рэжысурай мізансцэны нельга: шукай тое, што схавана за словамі паглыбляйся ў душу героя, рабі сваім і яго высакароднасць, і яго пошласць.

Так працаваў Уладзімір Іосіфавіч Уладамірскі.

**Іосіф РАЖБА,**
заслужаны артыст БССР, артыст Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М. Горкага.

## УРОКІ ВЯЛІКАГА МАСТАКА

Калі мы праводзім у апошні шлях паэта, успамінаем яго радкі, з якімі больш ярка ўспрымаем свет і жыццё. З артыстам ад нас адыходзяць у мінулае створаныя ім вобразы. А і яны ж таксама маюць сілу паэтычных споведзяў, калі толькі артыст гэты—сапраўдны мастак.

Сярод бліскучага сузор'я купалаўцаў Уладзімір Іосіфавіч Уладамірскі быў з зорак першай велічыні якраз таму, што быў сапраўдным, надзейным, здольным на творчасць высокага мастацкага густу. Я помню, як усхвалявана і ўдзячна ўспрымаў яго Гушку ў «Бацькаўшчыне» мой сябар Эдуард Самуйлёнак, сцвярджаючы, што са старонак прозы герой узышоў на падмосткі і нібы трапіў пад павелічальнае шкло: нюансы, адзначаныя ў рамане многімі абзацамі, у паводзінах сцэнічнага Гушкі набывалі выразны жэст або інтанацыю. Раманіста, які станавіўся драматургам, гэты акцёр пераконваў, што сцэне можа падначаліцца любое літаратурнае слова.

Мабыць, такое ўражанне пакідала ігра У. І. Уладамірскага не толькі ў Эдуарда Самуйлёнка: тэатралы ведаюць, што ўдзячнае слова адрасавалі яму Еўсцігней Міровіч, Кандрат Крапіва, Алесь Кучар.

А мы, пісьменнікі, якія толькі «перажывалі» за сваіх калег-драматургаў, бралі і бяром нейкія вельмі патрэбныя нам урокі ў артыстаў маштабу і таленавітасці Уладамірскага. Праўда жыцця, увасобленая прыёмамі акцёрскага майстэрства, набывае новае гучанне, адкрывае ў чалавеку нешта такое, чаго дасягнуць мовай прозы не так лёгка. На маю думку, Уладамірскі даваў нам і такія ўрокі, зразумела, нават і не падазраючы пра гэта. Таму мы лічылі і лічым яго сваім даўнім і адданым сябрам, таварышам па зброі. Для нас яго служэнне беларускаму тэатру неадрыўнае ад таго, што рабілі разам з ім Уладзімір Крыловіч і Барыс Платонаў, Генрых Грыгоніс і Глеб Глебаў... Іх подзвігам здабывалася слава нашай роднай сцэны. Сярод запаветаў, пакінутых імі як традыцыі, ёсць і вельмі дарагая нам—павага да пісьменніцкага слова, уменне і абавязак акцёра здабываць з драматургіі ўсю гаму чалавечых пачуццяў і замацоўваць яе ў арыгінальных сцэнічных вобразах-партрэтах. Такіх, прынамсі, якія застаюцца ў гісторыі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з подпісам: «сыграна Уладамірскім»!..

Пісьменніцкая грамадскасць Беларусі нізка схіляе галаву перад труной народнага артыста Савецкага Саюза У. І. Уладамірскага.

**Тарас ХАДКЕВІЧ.**

Аляксей КАРПЮК




## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1.

«Новае вучэнне» разрасталася. Патрабавала яно і новай арганізацыі.

У святога неўзабаве з'явілася верная кагорта «трэціх свяшчэннікаў». З іх арганізавалася «святая тройца», «святая пяцёрка», «сядміда», «дванаццатка», у якія ўвайшлі — Якаў, Янох, Максім, Іаан Багаслоў, Пётр і Павел, Архіпатрыцый, хоць на самай справе былі гэта дзядзькі: Волесь, Макар, Цімох, Васіль...

Па нейкім законе супрацьвагі да наогул смірнага, спакойнага і непітушчага Клімовіча пацягнуліся скончаныя алкаголікі, буйныя фантазёры і прайдзісветы, таленавітыя валацугі. У «штабе» прарока кожны з іх умомант знаходзіў сабе прымяненне і занятак.

Покуль у Грыбоўшчыне адны складалі Альяшу гімны і частушкі, а другія спатыкалі пілігрымаў палымянымі, поўнымі тарабаршчыны прамовамі, трэція апосталы з грашыма на начлег і харчаванне разыходзіліся па праваслаўнай Польшчы прапаведваць новае вучэнне.

Неўзабаве настаў час, калі ў некаторых вёсках людзі амаль зусім перасталі хадзіць да царквы. Хутка сталі яны пуставаць і ў мястэчках.

Толькі ў вялікіх гарадах ідэі «новага вучэння» покуль што ніякага поспеху не мелі. «Тупых і ўпартых» гараджан свежая вера не брала ніяк. Але Альяша гэта не надта хвалявала.

Прапёршы з Грыбоўшчыны манахаў, прарок на сходы сваёй абшчыны болей не пайшоў. Ён не рыхтаваў і пасланцоў на вёскі, як і не даваў ім наказаў. Покуль «трэція свяшчэннікі» рабілі за прарока арганізацыйную работу і падтрымлівалі ажыятаж вакол яго імені, дзядзька Альяш аддаваўся гаспадарчаму інстынкту.

Вычытаўшы ў Евангеллі ад Лукі ўпамінанне пра гасцініцу, Клімовіч надумаў пабудаваць яе для пілігрымаў, а пры ёй — стойлы і калодзежы для коней. Заняты гэтай справай, ён узбіраўся на той самы вазок з драўлянымі восямі і лазовымі атосамі, падкладваў пад сябе конскую торбу з грашыма і адпраўляўся у Студзянскае лясніцтва, Крынкаўскую цагельню ды ў крамы Бераставіцы, Гарадка, Саколкі, Міхалова.

Больш яго нішто не турбавала.

Затое Альяшовых актывістаў аж падмывала дабрацца да вялікага горада, узбунтаваць народ і там.

### 2.

Перад самай сёмухай з пятнаццаць жанчын на чале з празнікаўскай Тэкляй і зусім старэнькай, але даволі жвавай Піліпіхай згаварыліся ісці заваёўваць Гродна. Тэкля павесіла сабе на шыю вялізны медны крыж на ланцужку. Іншыя пабралі партрэты Альяша. Піліпіха ўзяла яшчэ і іконку, на якой прарок намаляваны быў з залатым венчыкам над галавой. Данілюк усучыў ім лістовак з «залатымі словамі самога айца Ільі»...

У першы дзень сёмухі ў гродзенскім саборы, каторы на вуліцы Ажэшкі, грымела набажэнства. Сабор напаўнялі царскія адвакаты, інжынеры і ўрачы. Людзям гэтым жылося добра — Польшчы патрэбны былі спецыялісты, ім плацілі няблага. Яшчэ былі тут рускія памешчыкі, тыя, хто з Расіі вывез золата.

Адным словам, сабор на сёмуху запоўнілі сапраўдныя буржуі з жонкамі. Апранутыя ў габардзіны і шоўк, яны ўзнёсла і задумна глядзелі на асветлены сотнямі рознакаляровых лямпачак алтар, на бліскучую рызу бацюшкі і аддаваліся «пресуществлению крови господня».

Настала хвіліна ва ўрачыстай абедні, калі бацюшка зычным і добра пастаўленым альтам зацягнуў словы літургіі: «Твое от твоих тебе прино-ся-а-ша-э, от вся и от все-ех!..»

У гэты якраз момант з партрэтамі барадатага дзеда і ўваліліся ў сабор вясковыя бабы з Грыбоўшчыны...

Тэкля потым прызнавалася, што вельмі разгубілася, толькі адступаць было позна ўжо. Яна апынулася перад рускай дваранкай у капелюшы — жонкай палкоўніка. Тэкля стала піхаць ёй лістоўку і гаварыць:

— Сястра ва Хрысце, на, гэта — са святой вёсачкі Грыбоўшчыны! З самой Грыбоўшчыны!.. Ідзі туды, у святую вёску, чаго тут выстойваць будзеш з імі!.. Папы — ашуканцы, хіба ты не ведаеш?! На небе адзін усявышні бог, а на зямлі — прарок і наследнік яго, наш Саваоф, Ілья!..

Пышная дваранка, муж якой і на службе ў палякаў атрымліваў жалавання столькі, колькі была варта ўся гаспадарка Тэклінага бацькі, нават і галавы не павярнула да басаногай сялянкі.

Амаль кожная вясковая цётка, будучы дзеўкай, працавала ў горадзе служанкай. Калі бабы збіраліся ў дарогу, каб ісці ў горад, у іх падсвядома ажылі старыя крыўды. Жанчынам захацелася неяк адпомсціць сваім бязлітасным эксплуататарам за страчаную прыгажосць, за адданыя маладыя сілы і сэрцы на тое, каб гэтыя паны і паўпанкі з жонкамі мелі чыстыя кашулі, спакойныя нервы, напоўненыя страўнікі, каб былі гэтак сама накормленыя, здаровыя і чыстыя іхнія барчукі.

Тэклю агарнуў адчай. Вярнуцца ў вёску? Як паказацца на вочы Альяшу?! Яна ж нават крыж яго ўзяла!.. Ёй захацелася хоць насаліць панам. Яна ўжо забылася нават, хто яна і чаго сюды прыйшла. Агорнутая нейкім буйствам, Тэкля стала прытупваць і спяваць на ўсё горла:

> Ой, по-олным, пол-на коро-буш-ка,
> Есть в ней си-итец и пар-ча!..

У саборы наступіла раптоўная цішыня. Тэкля яе спалохалася яшчэ больш і змоўкла на паўслове.

— Что за безобразие? — пачуўся зычны і абураны голас бацюшкі. — Как вы посмели сюда ворваться?! Кто вас сюда впустил?! Марш отсюдова, богохульницы!.. Немедленно убирайтесь все из божьего храма!

Мабыць, за ўсё існаванне сабора ўпершыню ў ім гучэла гэткая свецкая прамова.

Баб ужо свідравалі сотні абураных вачэй, на іх скалілі залатыя зубы паны і паўпанкі. Жанчынам зрабілася надта сорамна за свае босыя ногі, запыленую кужэльную вопратку, растрапаныя валасы — нібы іх тут голымі выставілі.

— Староста, сейчас же выведите их из храма! — камандаваў бацюшка. — Выбросьте эту скверны прочь!..

Да цётак падляцелі паслугачы.

— Буржу-уі, а от мы вас не баі-імся!.. — роспачліва віскнула Тэкля на ўвесь голас. — Усяроўна прарок Альяш — адзіны бог на зямлі!.. Настане час, прызнаеце яго і вы!..

— І вы дачакаецеся пагібелі! — крычала другая цётка.

— Не лезь, адстань!.. Адстань, халуй!..

Піліпіха ўпала на мазаічную падлогу, накрылася цёплай хусткай і заенчыла:

— Карав-ул!.. Лю-удзі, караву-ул, забіва-аюць!.. Дзе вы, мае дзе-еткі, рату-уйце!..

Праз хвіліну бабы апынуліся на бруку.

### 3.

Выбраўшыся на Індурскую шашу, жанчыны, каб перавесці дых, завярнулі да Нёмана. Піліпіха адразу паставіла пад куст іконку, укленчыла на траву і пачала біць паклоны ды маліцца. Астатнія моўчкі пайшлі да вады. Яны памыліся і прычасаліся, сплялі і ўлажылі свежыя косы. Затым паселі на мурог, узяліся за вузлы і торбы. Паступова ў іх развязаліся языкі.

Закусваючы сняданне сітным хлебам з ліманадам, жанчыны ўспаміналі выпадак і, здаволеныя, рагаталі, быццам вярталіся з цікавай гулянкі:

— Ну ж і крычаў, ну ж і перапалохаўся бацюшка!..

— І паноў — аж халера брала!..

— А гэты халуй як хопіць мяне за рукі!.. Але я, здаецца, добра праехалася кіпцюрамі па яго мордзе — як бараной!.. Кофту, заменак, парваў!.. У каго графка е, трэба скалоць!.. Ох, і тут яшчэ сіняк!.. Пяку-уць як!..

— І я свайго добра сперазала кіёчкам ад партрэта!.. Аж увагнуўся мой кавале-ер!..

— А я нават парвала ланцужок ад крыжа!.. Сарвалі мы ім, бабы, свята! — падсумавала Тэкля.— Мне ніколі не было так страшна, а няхай на яго!.. Я думала — паліцыю паклічуць!..

— І паклікалі б, каб не далі драла!

— Затое памятаць будуць нас доўга!

— Адну цётку Піліпіху не крануў ні адзін!.. Але ж вы , цётко, і нарабілі ім ляманту — на ўсю царкву!

Бабка старанна біла паклоны перад адбіткам Альяша ў глыбокай, як скрыначка, рамцы і нават не павярнула да іх галавы.

### 4.

У Грыбоўшчыне баб спаткалі, як сапраўдных гераінь.

Праз дзень-другі выпадак аброс неверагоднымі падрабязнасцямі і па вёсках разыходзіўся легендай.

— Чулі, што ў Гродне грыбоўшчынскія бабы натварылі?— перадавалі ўсхваляваныя людзі.— Кажуць, увесь горад перавярнулі ўверх дном!..

— І не кажы!.. Там ішоў якраз малебень. Тэкля з бабамі ўнесла ў сабор партрэт Ільі і пачала гаварыць да народа. Бацюшка хацеў яе абарваць, дык Альяшоў партрэт — як засве-еціцца!.. Бацюшка — як спало-охаецца!.. З кадзілам і ў рызе — на званіцу пабег!..

— Ага!.. А народ, які ў саборы ў той час быў, давай бабам у ногі кланяцца і гаварыць: «Мы даўно ведалі пра Ілью, але нас папы не дапускалі да яго вучэння!.. Дзякуем вам, мілыя сёстры, што свет нам адкрылі!..» І людзі павыкідвалі свае іконы, памясцілі ўсюды Альяша!

— Уся вуліца, кажуць, завалена выкінутымі абразамі!..

— А потым людзі як разбушава-алі па усім го-орадзе!.. Прыбягаў нават архірэй — кансісторыя яго адтуль недалёка,— дык народ яшчэ больш свае!.. Тады ён давай бабам золата прапаноўваць, каб толькі яны адсталі, але бабы — ні ў какую!.. І айцец Антоні полы ў рукі дый — у старостава, гаварыць па ціліфону з самім Пілсудскім, каб даў войска!..

— О, няхай і Пілсудскі ў Варшаве сваёй вусы цяпер пакруціць, няхай ведае нашых!

— А што ён сабе думае — заваяваў нас і так яму гэта абыйдзецца?! Толькі па курортах сабе будзе ездзіць?!

— Ну!.. І на ўсмірэнне выклікалі войска!..

— Учора наш Юляк вазіў ў Гродна бульбу, дык уласнымі вачыма бачыў — каля сабора салдаты!.. І каля іншых цэркваў круцяцца яны!.. Баяцца, каб і туды нашы не дабраліся!..

— А праўда баб у турму пабралі?

— І я чула. Мусяць вы-ыпусціць, нікуды не дзенуцца, калі народ так разбушаваў!..

Гэткія і многа іншых небыліц, народжаныя хворай фантазіяй цёмнага люду, па законе «псіхалагічнага рэха» ляцелі па вёсках.

### 5.

З такім жа вынікам вярталіся прапагандысты «новага вучэння» і з Вільні, Беластока, Брэста. Праваслаўныя і ў гэтых гарадах складаліся пераважна з рускай, яшчэ царскай інтэлігенцыі. Сярод іх зрэдку трапляліся «шчаслівыя»-беларусы, якім удалося дарвацца да цывілізацыі ды крыху падняцца над аднавяскоўцамі.

Духоўнае жыццё гараджан і сялян працякала тады як бы ў розных плоскасцях, і плоскасці гэтыя паміж сабой не перасякаліся. З васьмі мільёнаў праваслаўных у Польшчы ў горадзе іх пражывала ўсяго працэнты са два. Астатнія кіслі ў забітых, адсталых і абяздоленых вёсках. І яны да таго паддаліся чарам самімі створанай легенды аб Альяшу з Грыбоўшчыны, што, пакуль ён сам, седзячы на конскай торбе з іхнімі грашыма, ездзіў у лес, мацаў кожнае бервяно для гасцініцы, таргаваўся за кожную шыбу і перабіраў у крамах ледзь не кожны цвік, яго пасланцоў амаль на руках насілі.

Яшчэ адну спробу аб'яднацца зрабіў гродзенскі архірэй. З такой мэтай ён неўзабаве і адправіўся ў Грыбоўшчыну.

На гэты раз айца Антонія мужыкі ўжо не спатыкалі і дзяўчынкі дарогу пялёсткамі не ўсцілалі. І на святой горцы было зусім мала народу — прыбеглі толькі тыя, хто не мог сабе пазволіць, каб не паўзірацца на скандал. Не кінуў сваіх пільшчыкаў, не пайшоў да высокапастаўленай асобы і Альяш.

Архірэй не падаў нават і віду, што халодны прыём яго ўразіў. Ён паслаў машыну па бацюшку з Вострава і прыступіў з ім да літургіі, адклаўшы размову з адступнікам на пасля — яны з бацюшкам меліся паклікаць яго на трапезу.

Толькі нічога з іхняй задумы не атрымалася.

У рытуале архірэйскай службы пры абедні ёсць момант, калі епіскап мые рукі, а потым выцірае іх ручніком. Альяшовы «трэція свяшчэннікі» падклалі госцю свінчо — падсунулі пусты посуд, і айцец Антоні, як артыст, вымушаны быў разыгрываць амавенне на суха.

Далей яго чакала яшчэ горшае.

Толькі архірэй сваё немаладое і грузнае цела павярнуў да народа, як з усіх бакоў панесліся выкрыкі:

— Што, будзеш падбіваць нас, каб і мы ў царкве па-польску гаварылі.

— Ужо прадаў палякам цэрквы ў Гродне, цяпер і нас прадаваць прыехаў?!.

— Вунь якое пуза наеў нашым гарбом!

— Падаслалі цябе паны!

— Прэч архірэяў і папоў!

— Вон і адгэтуль!

— Чаго прыпёрся, кудлан?!

Так і не далі сяляне справіць архірэю службу. Давялося адмяніць і трапезу.

Кажуць, вярнуўшыся ў Гродна, айцец Антоні сабраў у кансісторыі свяшчэннікаў і служачых і даў ім разгон:

— Неадукаваныя мужыкі, нейкія сектанты, а як дзейнічаюць, бачыце?! Як яны народ паднялі?! Як людзі ім вераць?! Чаму не вераць гэтак нам, адукаваным?! Трэба разабрацца ва ўсім гэтым цячэнні і павучыцца ў іх!.. Чым вы займаліся ўвесь час?! Што вы мяне ашуквалі і супакойвалі, што гэта—лакальная з'ява?!

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1.

Альяш прапёр манахаў, бацюшку з Вострава і архірэю паказаў фігу, і тыя мусілі гэта перацярпець.

Другі раз, цяпер аж з Варшавы і Вільні, прыязджалі да яго кансісторскія паны ў капелюшах, каб памірыць іх, але Клімовіч да гасцей нават не выйшаў. Парламенцёры мусілі пасядаць у свае лімузіны і паехаць ні з чым.

Цяпер яшчэ больш жанчын і мужыкоў пехатою, на каленях, фурманкамі і веласіпедамі пацягнуліся ў Грыбоўшчыну.

Прыбыўшы на месца, людзі, акружыўшы цэркаўку, падалі на калені і спявалі:

> Ты, Ілья, наш святы страннік,
> Табе слава і прывет!
> Ты вялікі Хрыста Йзбраннік,
> Служыш богу многа лет!
> Людзі зблізка і здалёка
> К табе ідуць, ідуць і йдуць!
> Няма такога чалавека,
> Які б не быў ужо тут!
> Наш начальнік у тройцы слаўны
> Усімі зрымы чалавек,
> Ты тварэц ўсіх непасціжны —
> Альфа і Амэга ў век!..

Толькі што прывезлі з Беластока і павесілі чатыры званы. Браты Кавальскія зрабілі іх на славу: з галасамі магутнымі, але чыстымі ды звонкімі — здавалася, мёртвага з магілы падымуць і падбадзёраць.

Калі з'яўляўся, нарэшце, Альяш, званары хапаліся за вяроўкі; і па душах людзей ударалі шматпудовыя



Павел Бельскі — паэт з «акружэння Альяша».

---

Працяг. Пачатак у нумарах газеты за 15 і 22 студзеня г. г.

бронзавыя волаты. З урачыстай узнёсласцю яны абвяшчалі цэлай акрузе:

— Ідзе-е!.. Вось ён, вось ён, вось ён!..

Людзі кідаліся да Альяша, цалавалі яго світку, ногі і брудныя нагавіцы, якіх ён ніколі не мяняў.

— Бом!.. Бам-бам-бам!..

Дужыя целахраніцелі браліся за рукі, адціскалі ад яго баб і пракладвалі ў людской масе калідор. Тады ашалелыя кабеты падалі долу і вырывалі травінкі, да якіх дакранался нага святога. Гэтую святую каштоўнасць бабы завязвалі ў хусцінкі, каб занесці яе тым, хто застаўся дома. Гэтыя травінкі яны потым кідалі ў куточкі сваёй хаціны — каб прыйшло ў яе шчасце. Клалі на галоўкі дзетак,—каб не «ўраклі» іх злыдні. Пасыпалі імі нават мужа — каб не запіваў і не ленаваўся. Крапілі імі свіней і кароў — каб не браў іх паморак і дрэннае паветра.

## 2.

Маленні, спяванне псалмаў па вечарах у Грыбоўшчыне зблізіла паклоннікаў «новага вучэння». Альяшова эліта жыла бесклапотна — на самай справе прыпяваючы. Каб не трапіць «во искушение дьявола», каб заглушыць у сабе плоць, змагары за «чысціню веры», ва ўсім свеце прыдумвалі рознае схімніцтва, адмысловыя пасты, накладвалі на сябе жалезныя вярыгі, да ног прывязвалі гіры... «Трэція свяшчэннікі» і не думалі гэтага рабіць. Наадварот — іх агарнула буйства плоці і яны далі яму волю.

Тэкля перавезла ўсю сваю маёмасць з Празнікаў і жыла ў Альяша ды клапацілася аб ім, як самая верная жонка.

Заўважыць ніхто не паспеў, калі ў Грыбоўшчыне ля кожнага апостала з'явілася маладая жанчына — святая дзявіца. Апосталы ад гэтага нават як бы памаладзелі, сталі больш ўпэўненымі і спакойнымі ды прывязанымі да месца...

Адным словам, і да Альяшовай «навукі» далучыўся секс, які ў кожным рэлігійным цячэнні іграў нямалаважную ролю.

К таму часу Альяш меў ужо амаль семдзесят гадоў, і яму цяжка было зразумець, што сярод яго апосталаў адбываецца і куды ўсё гэта вядзе. А над яго абшчынай навісла пагроза разладу.

Неўзабаве пад бокам старога прарока з яго вучняў вырас супернік — Мікалай Рэгіс з Жабінкі. Малады і прыгожы мужчына на дзіва хутка займеў папулярнасць сярод святых дзяўіц, а потым і сярод усіх жанчын-багамолак.

За Берастаўліцай, у вёсцы Рэмуцеўцы (сёння—калгас «Гвардыя») сектанты, якія адкалоліся ад Альша, адразу знайшлі сабе даволі многа прыхільнікаў. Яны выкінулі новы лозунг: «Далоў сорам!» Ноччу іхняе зборышча клала ў балейку голага мужыка ці жанчыну і пад ліхаманкавыя завыванні і малітвы чэрпалі з балейкі ваду і пілі.

Потым адкалоліся ад Альяша самыя верныя яго багамолы ў Цялушках пад Гайнаўкай. Гэтыя раскольнікі аб'явілі сябе ангеламі. Яны наладжвалі сеансы размовы са святым духам і голымі парадавалі па вуліцы.

На Брэстчыне, у Зарэчыцы, мужык Іван Мурашка адкрыў секту сіяністаў і аб'явіў: «Усе ў грахах, усе загінуць, выратуюцца толькі мае вучні!..»

Для сустрэчы з Ісусам Хрыстом ён намерваўся перасяліць людзей у Ізраіль на гару Сіон, таму паклоннікаў гэтага вучэння празвалі «сіяністамі».

Па-свойму развіваліся падзеі ў Грыбоўшчыне. Святыя дзявіцы з апосталамі на чале з Рэгісам запіраліся ў хатах, у якіх стаялі на кватэры, адкрывалі бутэлькі гарэлкі, і пачыналася ліха ведае што.

Зрэшты, анархія ў абшчыне Альяша прадаўжалася нядоўга, і неўзабаве наладзіўся зноў парадак. Нечаканым забойствам менш за ўсё вінаватага чалавека Альяш паставіў усё на сваё месца.

## 3.

Здарылася гэта восенню.

Бульбу ўжо выкапалі. Выбралі і агароды. Якраз бабы браліся трапаць лён.

Заладзілі дажджы. Вечары настала доўгія і сумныя.

У адну такую ноч, калі Грыбоўшчыну ахунула сырая цемра, Тэкля прыбірала ў гасцініцы. Альяш, Руселіха і Піліпіха з сотняй самых заядлых багамолаў і багамолак, але без славутага баса Мікалая Рэгіса, цягнулі ў царкве самі, як маглі, апошнія псалмы. У гэты час на падлогах баковак і вялікіх хат вёсачкі покатам валяліся пілігрымы. Святы ўзгорак яны наведалі яшчэ днём. Людзі намаліліся, наплакаліся і нажаліліся. Выладаваўшы, нарэшце, сваю боль і крыўду, яны цяпер насцярожана прыслухоўваліся з трывогай да ночы, і былі сам-насам з неспакойнымі думкамі.

За вакном сумна барабаніў зацяжны дождж. На кухнях пры газовачках гаспадары шаткавалі капусту, а малыя сварыліся з-за храпкаў і морквы. Пілігрымы адно цяпер спахопліваліся, што зусім не падрыхтаваныя да зімы, што дома іх чакаюць такія самыя дзеці. Ад забабоннага страху, не смеючы нічога кепскага нават падумаць аб прароку, людзі ўжо самі з сябе дзівіліся, як далёка забрылі, з жахам уяўлялі раскіслую дарогу, па якой ім зноў брысці і брысці.

Сон да пілігрымаў не прыходзіў.

Усе неспакойна ўздыхалі, шасталі саломай і напэўна не адзін у адчаі паціху казаў: «Эх, сам ад сябе, халера, нікуды не ўцячэш, не схаваешся, хоць ты трэсні!..»

І ў двухпавярховай гасцініцы — дзіўнай для глухой мясціны будыніне — жыццё цякло сваё.

На другім паверсе ў пакоі паэта знаходзіліся тры мужыкі.

У воблаку дыму з папяросай у зубах за асобным столікам пісаў вершы Павел Бельскі з Пянькоў. На сцяне, пад якой стаялі яго нары, віселі партрэты барадатых дзядзькоў — прарока Альяша Клімовіча і графа Льва Талстога. Былы гродзенскі дзячок, а потым гандляр сукном па вёсках Прынёманшчыны, Павел Бельскі, напэўна, не прачытаў ні адной кніжкі Льва Мікалаевіча. Павел шанаваў графа за тое, што яго пракліналі папы.

Другім у пакоі начаваў валахаты дзядзька. Ён раніцой меўся адпраўляцца ў Гродна з абозам вышытых ручнікоў, дыванамі і навагрудскім ільном, а цяпер ва ўсёй верхняй вопратцы валяўся сабе на нарах.

За іншым сталом з бутэлькай гарэлкі ў руках сядзеў чорнабароды і магутны Мікалай Рэгіс. Вышываная касаваротка яго была расхрыстана, на валасатай грудзіне вісела на ланцужку вялізнае меднае распяцце.

Краснабай і любімчык жанчын Рэгіс быў якраз не ў гуморы.

— У горад падацца ці што? — прамовіў ён ні то да дзядзькі, ні то падумаў услых. — Госпадзі, як перажыць зіму!

Рэгіс неахвотна пéракуліў з паўшклянкі гарэлкі, з глінянай місы ўзяў лусту хлеба, цыбуліну, ткнуў яе ў соль і з хрустам пачаў закусваць.

У гэты момант нехта нясмела пастукаў у дзверы.

— Прошэ!.. — па-польску дазволіў ён.

З вядром вады і венікам увайшла Тэкля. Яна аддана тры разы пакланілася партрэту Альяша, затым — Талстога, яшчэ столькі ж разоў пéражагналася і мякка папракнула мужыкоў:

— Зноў накурылі, хоць сякеру вешай?! Ой, мужчынкі, мужчынкі!..

— А, светлая душа, Фёклачка! — узрадаваўся Рэгіс. — Навядзі парадак у нас, мілая, навядзі!..

Покуль маладзіца мокрай анучкай працірала падлогу, покуль любоўна разгладжвала саматканыя посцілкі на нарах і дываны ў шашачку на сценах, Рэгіс не спускаў з яе ласых вачэй.

Гэты мужыцкі сын у вайну дaслужыўся нават да прапаршчыка. Потым у Шчорсах прыстаў да памешчыцы ў прымы. Фанатычная полька катэгарычна патрабавала ад яго прыняць каталіцызм, і ён яе кінуў. Пару гадоў паблытаўся па вялікіх гарадах у пошуках працы, покуль не прыстаў да Альяшовага хору.

Агледзеўшы Тэклю ад пят да галавы, Рэгіс шчыра здзівіўся:

— Гэтыя радзімкі на шчацэ і шыі, гэтыя поўныя ногі!.. Колькі разоў на яе гляджу, столькі думаю — ну ж і бабу падчапіў сабе наш прарок!

— А што?—прабурчэў вазніца.—Альяш хоць стары, але — жывы!

— Ты гэта сур'ёзна?! Што ён у свае гады можа рабіць з ёю?! Ды на адной грэчневай кашы?! Ха-ха!.. Чудзяса твае, госпадзі!..

— Скажаце вы таксама, айцец Мікалай! — перабольшана засаромелася Тэкля.

Яна была з тых жанчын, каторыя за вонкавай наіўнай сціпласцю ведаюць, чаго хочуць. Жанчына разумела — Рэгіс гаворыць усё з-за зайздрасці, і такая размова Альяшу не пашкодзіць.

Наогул з ёю тварылася дзіўная метамарфоза.

Быў час, калі ў горадзе да таго Тэклю спойвалі, што на другі дзень, каб пахмяліцца, яна на сметніку шукала коркі ад бутэлек і жавала іх. Бацька яе сілай вырваў з горада, пасадзіў у фурманку і прывёз да хаты. У Празнікаўскага памешчыка батрачыў сірата, Юзік, якому даўно трэба было жаніцца. Стары ўгаварыў яго да сябе прымаком і ажаніў на дачцы. Юзік стаў з жонкі здзекавацца. Тэкля пайшла аднойчы з бабамі ў Грыбоўшчыну і да мужыка болей не вярнулася. Пражыла яна тут ужо амаль чатыры гады.

Мабыць, толькі псіхолагі маглі б вытлумачыць, чаму ў былой гродзенскай прастытуткі прабілася ў Грыбоўшчыне такая сціпласць і душэўная чысціня. Жанчына як бы расквітнела нанова і ў трыццаць тры гады аж свяцілася нейкай дзявочай прывабнасцю. Яна і мінуты не магла выседзіць без справы. З ап'янелымі ад шчасця і сарамлівымі вачыма, апушчанымі ўніз, бегала цэлы дзень ад дому да царквы, ад царквы да гасцініцы. Да ўсяго, што зрабіў Альяш, адносілася з беражлівасцю руплівай гаспадыні. З такой жа цеплынёй адносілася і да яго нават нядобразычлівых сяброў, бо хацела надта, каб гэтая непрыязнь у іх была часовая.

Пасля сказанага Рэгісам Тэкля патаемна пéражагналася зноў і пакланілася барадатаму партрэту. Тады сціпла і добразычліва папракнула жартаўніка:

— Вы, як заўсёды, жартуеце, айцец Мікалай!..

— Чаму ты думаеш?.. Я — сур'ёзна!..

Тэкля паспрабавала перавесці размову на іншае:

— І навошта вы, айцец Мікалай, столькі п'еце?!

— Ты лічыш — грэх?..

— Яшчэ і які!..

— Харо-ошая ты, далібог!.. Усяму ў цябе ёсць апраўданне!.. І да ўсіх ты хораша адносішся!.. Мне б такую жонку!.. Гм, і на назе радзімка!.. Колькі іх у цябе?! Не ведаю, чаго ты да гэтага смарчка прыліпла?.. Што ты ў ім убачыла?.. Скончыўся ён даўно, нічога больш гэты дзед не выдасць!.. Паглядзі — усе яго былыя паклонніцы цяпер да мяне ліпнуць, а да яго ходзяць толькі бяззубыя бабулькі!.. Дзіва-ачка ты!.. Кожная дзеўка адхапіла сабе маладога апостала, а ты, гэткая прывабная?!.

І тут Тэкля зазлавала.

— Жарабцоў нахапалі!.. — з бязлітаснай грубасцю кінула маладзіца і апякла Рэгіса нядобрым агнём сваіх цёмных вачэй. — Наглядзе-елася я на іх за свой век, і радзімкі яны мае папалічы-ылі, хо-опіць!..

Рэгіс сумеўся.

На першым паверсе пачуўся грукат у дзверы.

— Хто там?!. — насцярожылася маладзіца. — Сыйду і гляну, каго так позна нясе!..

Тэкля вылецела з пакоя.

Рэгіс выйшаў у калідор таксама і пачуў, як унізе яна кагосьці адчытвае:

— Юзі-ік?! Ах, ты, смуроддзе, зноў прыплёўся?!

Незнаёмы мужчынскі голас прасіў:

— Пачакай, пагаворым!.. Прыйшоў табе сказаць: ладна, усё дарую табе...

— Ведаю!.. Гэтак ты толькі цяпер гаворыш, бо цвяро-озы!.. А нап'ешся, людзі ўвядуць у вушы, што з прастытуткай жывеш, і зноў жывёлінай станеш!.. Потым дзяцей гурбу мне наробіш, каб мэнчыліся на свеце!..

— Жонка ты мне ці не? — узвысіў голас мужчына. — А ну, хадзем!.. А то, ведаеш, я магу нават і ў крынкаўскую паліцыю заявіць!..

— Што-о?!.

— Што чуеш!..

— Ах, ты, смуро-оддзе! — узарвалася Тэкля. — Заяўляй хоць нават самому Пілсудскаму ў Варшаву, а я ўсяроўна да цябе не вярнуся, бо не люблю!.. Бегаў па вёсцы, бэсціў мяне апошнімі словамі, а цяпер адумаўся?! Позна!.. Марш адгэтуль, бо скажу самому Ільі і ён цябе ад Грыбоўшчыны хутка адвадзіць!..

— Кім ты палохаеш мяне?..

Рэгіс пачуў,як Тэкля бразнула дзвярыма і падперла іх з сярэдзіны дручком.

## 4.

Пакінуўшы гасцініцу, Юзік для храбрасці выпіў у знаёмых, выйшаў на вуліцу, стаіўся ў цемры, пачаў вартаваць.



Яшчэ адзін з альяшовай світы — Мікалай Рэгіс.

Няўдалы муж дачакаўся свайго суперніка, калі той вяртаўся з царквы, і пазнаў старога па белай барадзе. Спачатку ён загаварыў з дзядзькам па-харошаму — папрасіў адпусціць Тэклю, бо ён быццам бы забірае яе ў Берастаўліцу.

— Адвяжыся, гіцлю!.. — буркнуў Альяш.

Тады Юзік пачаў прапанаваць яму выкуп.

— Хочаш?.. Любую ікону ўкраду табе ў Супрасльскім манастыры, толькі заікніся!.. Нават цэлы алтар прывалаку табе адтуль — бяры, маліся на сваіх багоў, халера цябе бяры, калі ты ўжо такі багамольны, і не перашкаджай мне!.. Або грошай збяру, колькі скажаш!.. Адно адпусці Тэклю!.. Навошта табе, старому чалавеку, маладая?.. І калі ты верыш у бога, дык ён цябе на тым свеце за гэта не пагладзіць па галоўцы!.. Але ж ты і сам ні ў чорта, ні ў бога не верыш, а толькі бабаў дурыш дурных, хітрая святаша!..

— Ідзі, ідзі адгэтуль, бязбожнік! — ужо закрычаў Альяш.

— А-а, дык ты не здае-ешся?!. Не хочаш па-харошаму?! Ну, пачакай жа, пагаворым іначай!..

Юзік палез біцца.

Маладзейшаму на многа чалавеку няцяжка было падмяць пад сябе аслабелага Клімовіча і пакласці ў лужу, але далей яму не пашанцавала. Распластаны ўжо на спіне, Альяш роспачліва нашчупаў пад рукой камень, ударыў ім Юзіка ў вісок.

Узняўшыся на ногі, прыткі і ўспыльчывы Альяш прыйшоў у лютасць...

Побач ляжалі нечыя дровы. Прарок хапіў ёмкі яловы круглячок і датуль біў па галаве няўдалага мужа, пакуль чэрап яго ператварыўся ў мачала, і Юзік нават хрыпець перастаў.

Адкінуўшы сухі кругляк, задыханы Альяш павалокся быў ужо дамоў, але адумаўся і з паўдарогі завярнуў. З вялікай цяжкасцю, ледзь не надрываючыся, Клімовіч завалок цела пад цэркаўку, кінуў у яму, адкуль бралі людзі святы пясок, і закапаў. Толькі тады стары супакоіўся.

Адпачыўшы, Альяш памыў у лужыне рукі, паназіраў, ці за ім хто не сочыць, і не спяшаючыся, патэпаў дахаты.

Альяш не прадбачыў, што святога месца не прызнавалі сабакі. Цікаўныя Тузікі і Жучкі за ноч труп вывалаклі. Людзі раніцой пабеглі заяўляць солтысу — Курзе Сцяпану. Солтыс упаў вярхом на каня і паімчаў у гміну.

Яшчэ да абеда прыехалі з Саколкі следчыя. Яны знайшлі яловы круглячок са слядамі засохлай крыві на сучках. Таксама знайшлася тая цётка, у каторай Юзік выпіваў ды хваліўся, што пойдзе біць морду, вырываць бараду свайму суперніку.

Неўзабаве знайшлі і сведкаў забойства — прарок доўга не мог даць рады маладому целу і мучыўся з ім, покуль завалок у яму, з гадзіну.

Адным словам, Альяша арыштавалі, і, смакуючы ўжо сенсацыю, павезлі ў павятовую турму.

Толькі дарэмна следчыя стараліся.

## 5.

Выязджаючы ў Грыбоўшчыну па сігнале з гміны, сакольскія следчыя старосце нічога не сказалі. Калі ж павятовы начальнік даведаўся, што за вязень сядзіць у яго турме, — надта перапалохаўся. Староста зараз жа паімчаў у Беласток. Разам з ваяводай Генрыкам Асташэўскім пазванілі яны ў Варшаву і кардынал патрабаваў абодвух начальнікаў да сябе.

Прымас Польшчы ўважліва ваяводу са старостай выслухаў і вельмі здзівіўся:

— Панове, то гэты мужык з такім хара-актарам?.. Але ж — выда-атна!.. Ён, і праўда, той, хто нам патрэбен!..

І далей гнезненска-познаньскі біскуп уразіў павятовага і ваяводскага начальніка сваімі вывадамі:

— Не будзем, мае дарагія, суровыя к людзям. І ў саміх ёсць эканомкі. Ды і віна яго не вялікая — з такім жа поспехам мог яго прыстукнуць і супернік. Панове, вы самі ведаеце, якое апусташэнне ён нанёс праваслаўным цэрквам, як на фоне гэтай з'явы выглядаюць нашы касцёлы!.. Пра вашага мужыка ведаюць нават у Ватыкане!.. Так, так, я, сур'ёзна!.. Гэтага арыгінала зараз жа трэба выпусціць і справу ўладкаваць. Думайце самі, як ўсё арганізаваць. Але зрабіце так, каб ніякая вестка не пранікла ў левыя рэдакцыі, а тым больш, — за граніцу, зразумела?..

— Будзе выканана, ваша эксэленцыя! — пачціва прамовіў за абодвух Асташэўскі.

— Тады — з богам!.. Я са свайго боку падмацую вас таксама. Папрашу прэзідэнта,

*СЕЛЕТА ў маі мяркуецца склікаць чарговы, VI з'езд кампазітараў Беларусі. Аўдыторыя слухачоў музыкі цяпер неабсяжная—музыка гучыць на радыёхвалях, у святочных залах кансерваторый і філармоній, у клубах прадпрыемстваў і калгасаў, у студэнцкіх інтэрнатах і на палявых станах, у тэатры і з «блакітных экранаў». Характэрная прыкмета часу—усё больш слухачоў збірае музыка сімфанічная, камерная, інструментальная, а прэм'еры опер і балетаў выклікаюць ажыўлены абмен думкамі сталых дасведчаных музыказнаўцаў і меламанаў, навічкоў і заўзятых аматараў. Вельмі ж нядоўга грамадскасць абмяркоўвала штучную «праблему», якую высунулі празмерна рацыянальныя галовы, — ці патрэбна наогул мастацтва нібыта «састарэлых» класічных музычных форм у наша стагоддзе высокаразвітай індустрыі, кібернетыкі і асваення касмічнай прасторы. Жыццё абвергла самыя катэгарычныя высновы скептыкаў — музыка па-ранейшаму, заваёўваючы новых і новых прыхільнікаў, акумуліруе самыя летуценныя думкі і настроі сённяшняга чалавека-шукальніка, раскрывае складаны эмацыянальны свет, прасвятляе душу, замацоўвае ў памяці тое, пра што нельга забываць, апявае хараство і трывогі нашага часу. Крылаты афарызм М. І. Глінкі, які датычыцца кампазітарскай творчасці, жыве ў практыцы лепшых сучасных музыкантаў. Кожны з іх можа паўтарыць: «Стварае музыку народ, а мы, мастакі, толькі яе аранжыруем»... Гэта стасуецца і да сімфоніі, і да эстраднай песні, і да балетнай партытуры, і да армейскага марша.*

*Своеасаблівасцю кампазітарскіх з'ездаў з'яўляецца тое, што даклады і прамовы ў спрэчках тут ідуць пасля праслухоўвання найбольш значных твораў. І пачынаецца такое праслухоўванне задоўга да таго, як старэйшы член Саюза кампазітараў Беларусі абвесціць першае пасяджэнне адкрытым. Газета «Літаратура і мастацтва» імкнецца на сваіх старонках даць адлюстраванне такога працэсу, друкуючы водгукі і рэцэнзіі на прэм'еры буйных музычных твораў, артыкулы пра творчасць асобных кампазітараў і пра выканаўцаў, параўноўваючы мінулае з сучасным, імкнучыся даць чытачам уяўленне пра стан сучаснай музычнай культуры беларускага народа.*

*Суд сучаснікаў далёка не заўсёды бывае бездакорна справядлівы і аб'ектыўны: прыгавор мастацкаму твору выносіць час. Таму мы разумеем, што і лімаўскія матэрыялы на музычныя тэмы нельга разглядаць як нешта канчатковае ў ацэначным плане, трымаем дзверы газеты адчыненымі, каб кожны музыкант і слухач мог выказаць сваю думку, падзяліцца сваімі меркаваннямі па тых пытаннях, гаворка пра якія ішла на старонках газеты і тыдзень назад, і месяц, і год.*

*Напярэдадні кампазітарскага з'езда такія выступленні нашага аўтарскага актыву і чытачоў асабліва пажаданыя — іх з цікавасцю сустрэнуць і кампазітары, і выканаўцы, і слухачы музыкі.*

*Сёння мы друкуем падборку матэрыялаў пра навіны музычнага жыцця Беларусі.*

# БЛІЗКА СЭРЦУ КОЖНАГА

**Ціха ў вялізнай зале опернага тэатра, крэслы зацягнуты чахламі. Асветлена толькі сцэна, аблытаная сеткай правадоў, якія цягнуцца да мікрафонаў. Творчы калектыў работнікаў Беларускага радыё робіць тут фондавы запіс сімфанічнай паэмы Андрэя Мдзівані «Пахаванне Хатыні».**

**Пройдзе некалькі дзён, перш чым з тысяч метраў магнітафоннай стужкі гукарэжысёры ў садружнасці з дырыжорам і аўтарам выбяруць некалькі сотняў самых удалых метраў. Запіс будзе змантыраваны, не адзін раз праверыны па партытуры, праслуханы мастацкім саветам радыё і толькі тады атрымае «дабро» на новае жыццё ў хвалях эфіру.**

**А пакуль... пакуль ідзе карпатлівы запіс. Сімфанічным аркестрам Беларускага тэлебачання і радыё дырыжыруе Барыс Райскі. Яшчэ і яшчэ раз просіць ён паўтарыць асобныя фрагменты партытуры. Якасць гучання аркестра ў канчатковым выніку і вызначыць каштоўнасць усяго выканання.**

**Напружана ўслухоўваюцца ў гучанне аркестра гукарэжысёры Герман Басько і Барыс Кавалеўскі, бо яны, у першую чаргу, адказваюць за тое, каб пры запісе не страцілася свежасць тэмбраў розных груп інструментаў аркестра, жывы подых музыкі.**

**Сімфанічная паэма «Пахаванне Хатыні»—водгук кампазітара на трагічныя**

# З ЧАРОЎНАЙ КРАІНЫ ДЗЯЦІНСТВА

**ПЕРШАЕ ВЫКАНАННЕ ПІЯНЕРСКАЙ СЮІТЫ**

**Алега ЯНЧАНКІ**

...Вунь колькі іх на сцэне, 11—12-гадовых дзяўчынак і хлопчыкаў, вучняў Мінскай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы № 1. З якім захапленнем спяваюць яны пад акампанемент аркестра! Каб так натхнёна выконваць твор, трэба не толькі шчыра, самаадданз любіць музыку, але і захапіцца тым, што спяваеш. І тут трэба сказаць, што пачуццё прыгожага не здрадзіла юным артыстам, якія днямі ўдзельнічалі ў прэм'еры Піянерскай сюіты Алега Янчанкі. Кампазітар і паэт Мікалай Алтухоў стварылі сапраўды яркі расказ пра чароўны свет дзяцінства.

Мне здаецца, што твор напісаны з гранічнай шчырасцю, вынаходлівасцю і майстэрствам.

Складаецца сюіта з пяці частак: «Песня пра ганаровую піянерскую варту», «На катку», «Мы хаваем вераб'я», «Матыль» і «Школьны званок». Да кожнай часткі напісаны спецыяльны паэтычны эпіграф, якім чытальнік уводзіць слухачоў у свет вобразаў сюіты. Выконваюць эпіграфы таксама школьнікі: Аня Жалезка, Наташа Палукарава, Вадзім Мельнік і Вова Траццяк.

Харавая партытура Піянерскай сюіты двух-трохгалосая. Яна вызначаецца багатым выкарыстаннем вакальных фарбаў і магчымасцей такога ансамбля. Нягледзячы на пераменны памер у некаторых эпізодах сюіты, на змены рытмічных малюнкаў і танальныя зрухі, юныя выканаўцы без вялікага напружання пераадольваюць усе гэтыя цяжкасці, спяваюць з асалодаю і глыбокім разуменнем музыкі. І тут нельга не быць удзячным школе і мастацкаму кіраўніку яе творчай студыі заслужанаму настаўніку БССР Яўгену Іванавічу Марцынюку.

Вельмі цікавая, вынаходлівая аркестравая партытура сюіты А. Янчанкі. Акрамя складу Мінскага камернага аркестра (кіраўнік Юрый Цырук) аўтар выкарыстаў таксама багатыя фарбы медзі (валторны, трубы, трамбон), дадатковыя драўляныя інструменты, шырокі набор ударных, вібрафон, раяль і г. д. Аркестр не толькі акампаніруе, падтрымлівае харавы ансамбль, але і «каменціруе» падзеі, дае эмацыянальную настройку. Ён вельмі тактоўна, без натуралістычных падрабязнасцей адлюстроўвае і спеў птушкі, і школьны званок, і свіст канькоў на лёдзе і да т. п.

Кожная з пяці частак Піянерскай сюіты невялікая па памерах, але багатая па думках, па раскрыцці пачуццяў. Вялікая ўрачыстасць таго моманту, калі табе даверылі стаяць на ганаровай варце ля манумента загінуўшым героям, выдатна раскрываецца ў першай частцы твора. Здзіўляюча хораша гучыць тут такі светлы ў сваім суме, народны па характары найгрыш кларнета. Не менш хвалюе і дзіцячае галашэнне — працяглае гучанне адной ноты на літары «а», што зліваецца з урачыстасцю званоў у апафеозе — своеасаблівай славе героям.

Нешта ад яркасці народных гульняў, масленічных карнавалаў — у другой частцы твора. Тут і адчуванне цудоўнага «палёту» ў партыі скрыпак, і зухаватыя выкрыкі ў важкіх фартэпіянных акордах, і шмат іншых трапных замалёвак пачуцця радасці ў аркестравай і харавой партыях.

Глыбока ўражвае цеплынёй, гуманістычнай накіраванасцю трэцяя частка. Смутак па забітым вераб'і тут вельмі шчыры. Усплёск дзіцячага гора выдатна раскрываецца ў аркестроўцы, пяшчотнасць — у дзіцячых галасах хору.

На ўдалым кантрасце двух вобразаў — больш шпаркага, напорыстага і павольнага, пявучага — будуецца размова пра прыгажосць прыроды, пра змястоўны і цікавы адпачынак — у чацвёртай частцы. Фінал сюіты — «Школьны званок» — невялічкі вальс, які быццам завяршае прыгоды дзяцей у час адпачынку.

Не магу не зрабіць некалькі сяброўскіх заўваг. Хочацца параіць аўтару тэксту сюіты зноў прагледзець другую і трэцюю частку, дзе пяць разоў паўтараюцца словы «блакітны», пазбавіць таксама юную чытальніцу сентэнцыі «Жыццё—цудоўнае»...

Некалькі парад аўтару музыкі. Няма патрэбы ў першай частцы сюіты літаральна паўтараць аркестравы ўступ да другога куплета — гэта тармозіць дзеянне. Варта было б, на мой погляд, таксама скараціць у фінале гэтай часткі зацягнуты па часе апошні аркестрава-харавы акорд.

Заўвагі гэтыя прыватныя, яны не ўплываюць на агульнае выдатнае ўражанне ад Піянерскай сюіты, але тым больш хочацца, каб у яркім творы ўсё было бездакорна.

**І. НІСНЕВІЧ.**

# ВОДГУЛЛЕ СПЕВУ НАРОДНАГА

**ПРЭМ'ЕРА ЧАЦВЁРТАЙ СІМФОНІІ Л. АБЕЛІЁВІЧА**

...ГУЧЫЦЬ сумнае сола фагота. Уступ—імправізацыя на беларускія тэмы. Кларнеты і другі фагот, нібы ўздыхаючы, «каменціруюць» расказ саліста.

Першыя старонкі партытуры Чацвёртай сімфоніі Льва Абеліёвіча непарыўна звязаны з музыкай яго многіх твораў: з інтанацыямі «плачу» ў фартэпіяннай «Фрэскі» («Сумная гадзіна», «Рэквіем»), Другой сімфоніі (трэцяя частка, сола флейты).

Галоўная тэма, якая кантрастуе з уступам,—танцавальная і гарэзлівая, выконваецца скрыпкамі. Яна звязана з беларускай папеўкай і простая па сваёй структуры. Тут прыпамінаюцца другія «сігнальныя» тэмы Л. Абеліёвіча ў скрыпічнай «Гумарэсцы», рамансе «У дарозе». Пабочная партыя, скерцозная, з адценнем іроніі, выконваецца дуэтам засурдыненых труб.

Леў Абеліёвіч ужо ў экспазіцыі вызначае яркія, цікавыя тэмы, якія, мне здаецца, у далейшым маглі б атрымаць больш выразнае і маляўнічае развіццё. Вялікае значэнне надае кампазітар дэталям аркестравай фактуры. Абеліёвіч любіць яркія тэмбры, іх частую змену, любіць «рассыпаць» дробныя працягласці акампаніруючых нот па розных групах інструментаў, каб яны заззялі, як алмазы на сонцы.

У маляўнічым, крыху экзатычным аркестравым убранні распрацоўкі праплывае відазмененая тэма ўступу, якая шырока льецца ў кларнета пад акампанемент маленькіх барабанаў-бонгаў. У агульны рух умела ўведзена танцавальнае сола. Усё больш рашуча гучыць тэма ўступу, але кампазітар не ставіць задачу нагнятаць эмоцыі.

У рэпрызе знаёмыя тэмы пададзены яшчэ больш вытанчана, у крыху імпрэсіяністкім духу.

У другой частцы сімфоніі флейта, а потым скрыпкі пяюць працяглую светлую мелодыю. Цёплае чалавечае пачуццё, радасць і спакой — эмацыянальная сфера гэтай музыкі. Частка будуецца ў асноўным на адной тэме, што прыводзіць да некаторай аднастайнасці. Тут рашаючая роля ў формаўтварэнні належыць змене тэмбраў інструментаў. І гэта тэма блізкая да народнай песні, адна. характэрная для кампазітара сінкапіраванне працягласцей, ужыванне храматызмаў, пункцірных рытмаў, сучаснага інтаніравання мелодыі надае ёй «абеліёвічаўскі» почырк (падобную тэму можна пачуць і ў першай частцы Трэцяй сімфоніі). У Чацвёртай сімфоніі сувязь з народнай творчасцю ўзбагаціла меладычную мову аўтара.

Найбольш развітым з'яўляецца фінал, яго тэматызм вельмі выразны. З цікавым спалучэннем літаўраў і арфы аркестравана ўступная маршападобная тэма. Галоўная партыя, шырокая, пявучая і ў той жа час энергічная, падкрэслена сінкапіраваная, аб'ёмна гучыць у альтоў і ў віяланчэляў. Пабочная партыя яркая, захапляючая, танцавальнага характару, меладычна свежая.

У распрацоўцы фіналу Л. Абеліёвіч дабіваецца сакавітага, магутнага гучання ўсяго аркестра, цікавага развіцця матэрыялу. Кода тэматычна насычана дзякуючы з'яўленню тэм з першай часткі. Яна носіць крыху «фантастычны» характар. Тут вельмі маляўнічая аркестроўка: гучанні чэлесты, ксілафона, званочкаў надаюць эфект паступовага поўнага заціхання, «растварэння» музыкі.

Кожная сустрэча з толькі што напісанай музыкай хвалюе. Вас цікавіць пытанне: што новага сказаў аўтар? Калі Другая і Трэцяя сімфоніі закраналі складаныя пытанні нашага стагоддзя, развівалі матэрыял «углыбкі і ўшыркі», былі маштабныя па форме, то Чацвёртая зусім іншая. Л. Абеліёвіч напісаў жанравую па характары невялікую сімфонію (яна гучыць усяго 22 хвіліны), і, такім чынам, перад намі ва ўсіх сэнсах новы опус. Чацвёртая сімфонія была выканана Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Беларускай ССР пад кіраўніцтвам Юрыя Яфімава.

Першае выкананне толькі што напісанага твора заўсёды адказнае. У час рэпетыцый можна было бачыць, як хвалююцца за лёс сімфоніі не толькі

---

каб ён зноў узнагародзіў гэтага хлопа... Але ж і хара-актар!.. Самародак!..

І ваявода са старостай, нават не спыняючыся ў Беластоку, які быў ім па дарозе, проста са сталіцы прыкацілі ў Саколку ды разварнулі дзейнасць.

Неўзабаве пад морг заехала вайсковая машына. Захутаны ў мешкавіну труп беднага Юзіка салдаты заладавалі ў кузаў і некуды павезлі.

Абодва следчыя, якія вялі справу, атрымалі накіраванне на работу ў другія паветы.

Перавялі ў іншае месца і начальніка крынкаўскага «пастарунка».

Альяша з турмы забраў былы капітан легіянераў Пілсудскага, сам староста Вайцяховіч. З ледзь прыкрытай гідлівасцю і з затоенай цікавасцю павёў пан старога да сябе абедаць.

Жонку Вайцяховіч меў родам з дому князёў Любамірскіх. Надушаная, напамажаная, у сукенцы парыжскага пакрою і з прычоскай а ля Грэта Гарбо, старосціха сабралася частаваць славутага госця па ўсіх правілах свецкага этыкету. Толькі з яе стаpанняў выйшаў адзін канфуз.

Вясковы дзед на шыкоўную даму не падняў нават галавы. Ён сціпла прысеў на ўскрай абабітага квяцістым шоўкам крэсла. З багатага стала Альяш узяў кавалачак чорнага хлеба ды сіплым і глухім голасам ад перажыванняў па-беларуску папрасіў:

— Цыбульку бы мне...

Гэта і былі адзіныя словы, якія ён прамовіў у панскай кватэры.

Калі пасля мінутнай разгубленасці гаспадары выканалі яго просьбу, дзед абмакнуў цыбуліну ў соль і гэтак пачаў здавальняць свой голад. Старосціха доўга стаяла ў недаўменні. Тады яна пераглянулася з мужам і паляцела ў суседні пакой клікаць панічоў, каб паказаць ім папуаса.

Пасля абеда староста бесцырымонна ўпіхнуў дзядзьку ў свой лімузін і загадаў шафёру даставіць прарока ў Глыбоўшчыну.

6.

А гэтым часам у Грыбоўшчыне падзеі разгортваліся сваім шляхам.

Як толькі арыштавалі Альяша, апосталаў агарнула паніка — засудзяць прарока, разгоняць і іх. Адно цяпер яны ўбачылі, што для іх значыў гэты дзядзька. Бяда апосталаў аб'яднала.

Данілюк сабраў савет «трэціх свяшчэннікаў». Закрыліся яны ноччу ў царкве і пачалі раіцца, што рабіць.

— Я памятаю, як дваццаць гадоў таму назад гэтак сама арыштавалі бесарабскага прарока Інакенція і пасадзілі ў Мурамскі манастыр. Людзі дабраліся аж туды і вызвалілі яго, ісцінна вам гавару! — трымаў прамову Данілюк. — Амаль тры тысячы кіламетраў ішлі туды малдаване на поўнач — аж у Аланецкі край!.. Нам жа да Саколкі — вёрст з трыццаць. І нашым людзям толькі скажы, адразу ўсе вёскі падымуцца, ісцінна вам гавару!..

падзеі 22 сакавіка 1943 года. Дырыжора прыцягнула ў ёй не толькі хвалюючая, блізкая сэрцу кожнага з нас тэма, але і своеасаблівасць музычнай мовы кампазітара. Барыс Райскі ярка раскрывае ўсе дэталі партытуры, якія адлюстроўваюць несумяшчальнасць дабра і зла—двух процілеглых пачаткаў у жыцці чалавека.

Паэма пачынаецца прыглушаным гучаннем струнных—першыя промні сонца будзяць зямлю. Але вось з'явіліся злавесныя інтанацыі. Гэта чорныя хмары на сінім небе, гэта вайна. Чуюцца мерныя крокі—фашысцкі бот топча пяшчотную зеляніну траваў. Глуха стогне зямля ад болю, гневу і пакут. І здаецца, няма сілы, здольнай спыніць лавіну смерці.

Але вось на фоне змрочных гучанняў аркестра ўзнікае трапяткая мелодыя. Паступова яна мацнее, шырыцца, быццам кліча людзей на змаганне. Аркестр малюе напружаны бой жыцця і смерці. Узляцеў да неба адзінокі дзіцячы крык, глуха застагналі дрэвы, здрыганулася зямля. Але ці пераможа смерць! Не...

У аркестры ўзнікае пачатковая мелодыя раніцы, яна пульсуе, яна б'ецца, нібы ўздымаючыся над абпаленай, зруйнаванай, але няскоранай зямлёй...

Адгучалі апошнія акорды «Пахавання Хатыні». Але яшчэ доўга не пакідае нас уражанне ад пачутага. Сваёй трактоўкай Барыс Райскі пераканаўча раскрыў трагедыйны напал паэмы—бясспрэчна таленавітага твора маладога аўтара.

Усяго пятнаццаць хвілін і пятнаццаць секунд гучыць запіс. Але за гэтымі секундамі—вялікая, напружаная і творчая праца артыстаў аркестра, дырыжора, гукарэжысёраў, аператараў і рэдактараў радыё. Праца, якая ўвянчалася яркім поспехам.

У. ЯФРЭМАЎ.

---

аўтар і дырыжор, а і артысты аркестра. Нямала дэталяў партытуры кампазітар мяняў тут жа. Нешта высвеціліся толькі што, нешта падказаў выканаўца, дырыжор. І калі на рэпетыцыі не ўсё атрымліваецца, музыканты запэўніваюць: «Вечарам будзе».

І вось першае выкананне. Добра са сваім складаным сола справіўся фагатыст У. Штокалаў, а на рэпетыцыі, успамінаю, не ўсё атрымлівалася: чыстае інтаніраванне сучасных партытур уяўляе вялікія цяжкасці! Як заўсёды, упэўнена вядзе групу скрыпак канцэртмайстар аркестра С. Асновіч, на вышыні — група ўдарных. Ю. Яфімаў у першай частцы дабіўся добрага ансамбля, яркай нюансіроўкі. У другой выразна праспявалі сваё сола флейтыст Г. Гедыльтар, групы скрыпак, альтоў. Аднак часам гучанню ўсяго аркестра не хапала сакавітасці.

З вялікім уздымам музыканты выканалі фінал. Цяжкі унісон альтоў і віяланчэляў быў чысты. Тэмпераментна сыгралі скрыпкі танцавальную пабочную партыю. У кодзе дырыжор дабіўся тонкіх фарбаў, выдатна выявіў усё аркестравае багацце партытуры.

Мы просім Льва Абеліёвіча расказаць аб рабоце над сімфоніяй.

— Наогул да сімфанічнага жанру я звярнуўся не так даўно, гадоў дзесяць таму назад. Доўга баяўся брацца. Але вось у 1961 годзе я напісаў Першую, а потым Другую і Трэцюю сімфоніі, і гэта натхніла мяне на стварэнне Чацвёртай. Аднак задума ў гэтым апошнім творы ў мяне была іншая, чым раней. Я хацеў, каб сімфонія была даступнай як мага большаму колу аматараў музыкі. Адсюль яе сувязь з народнымі песнямі, танцамі, імкненне ў распрацоўцы не пашырацца, а... «звужацца». Я многа працаваў над Чацвёртай сімфоніяй. Яна мне вельмі дарагая. Бясконца перарабляў... Што атрымалася, хай мяркуе слухач...

Беларуская сімфанічная музыка папоўнілася новым, цікавым, арыгінальным творам.

С. МАДОРСКІ.

---

Па той бок

# ЗНОЎ ВАР'ЯЦКІЯ ГАДЫ

ІМЯ Дальтона Трамбо шырока вядома—ў Злучаных Штатах, ды і не толькі ў гэтай краіне. Больш як дваццаць гадоў ён быў вядучым сцэнарыстам у Галівудзе. Па яго сцэнарыях было пастаўлена нямала фільмаў. Але потым пра яго раптам нічога не стала чуваць...

У 1957 годзе ў Амерыцы праводзіўся конкурс сцэнарыяў. І адзін з іх — сцэнарый фільма «Храбры», які належаў пяру Роберта Рыча, атрымаў высокую ўзнагароду — прэмію акадэміі. Аднак, аўтар не змог атрымаць гэтай узнагароды па той простай прычыне, што яго ў сапраўднасці не было. «Роберт Рыч» — псеўданім Дальтона Трамбо. Сам кінадраматург у той час не мог выступаць пад сваім імем, бо яшчэ ў 1947 годзе разам з дзевяццю іншымі прадзюсерамі, сцэнарыстамі і акцёрамі Галівуда быў занесены ў чорны спіс за адмову адказваць на пытанні камісіі па расследаванні антыамерыканскай дзейнасці.

Заакіянскія інквізітары патрабавалі ад яго адказу — ці з'яўляецца ён членам гільдыі сцэнарыстаў, якая была залічана ў катэгорыю «падрыўных», і ці быў членам Камуністычнай партыі ЗША. Трамбо адмовіўся адказваць. Пачаліся рэпрэсіі. У 1950 і 1951 гг. ён быў прыгавораны да 10 месяцаў турэмнага зняволення па стандартным абвінавачанні ў «пагардзе» да кангрэсу. За некалькі месяцаў да таго, як яго кінулі ў камеру федэральнай турмы ў Атлэндзе, штат Кентукі, Трамбо пісаў рэдактару аднаго амерыканскага часопіса: «Я зноў пацвярджаю асноўны канстытуцыйны прынцып, што людзей можна дапытваць і праследаваць судовым парадкам толькі за іх дзеянні, але ніколі за іх думкі».

Нядаўна ў Злучаных Штатах выйшла ў свет кніга «Дадатковы дыялог: пісьмы Дальтона Трамбо, 1942—1962 гг.», свайго роду збор пісьмаў Трамбо, пасланых ім за дваццаць гадоў сябрам і ворагам, таварышам па працы, жонцы і дзецям. Даючы агульную характарыстыку гэтай кнізе, амерыканскі часопіс «Ньюсуік» пісаў: «Каштоўнасць яе ў тым, што яна з'яўляецца аўтапартрэтам сціплага, чалавечнага, выключна сумленнага і прынцыповага чалавека і, у дадатак, кніга паказвае, як ставілася Амерыка да сваіх палітычных адрынутых у «вар'яцкія гады халоднай вайны».

Кідаючы выклік чарнасоценцам з кангрэсу, не схіляючыся перад іх пагрозамі, Трамбо захаваў чалавечую годнасць, смела пайшоў на многія матэрыяльныя і маральныя ахвяры. У 1946 годзе ў яго быў кантракт з Галівудам, які гарантаваў вялікі ганарар за кожны напісаны ім сцэнарый. Унясенне ў чорныя спісы азначала аўтаматычны разрыў гэтага кантракту, а значыць значныя матэрыяльныя цяжкасці. Каб жыць, утрымліваць сям'ю Трамбо вымушаны быў стаць сцэнарыстам «чорнага рынка», пісаць сцэнарыі за іншых, атрымліваючы за сваю працу пэўную плату. Дарэчы, і іншыя ахвяры разгулу рэакцыі, такія як кінадраматург Майкл Вільсан і Рынг Ларднер, зараблялі сабе на хлеб такім чынам. Але яшчэ цяжэй давялося акцёрам, якія трапілі ў спіс «галівудскай дзесяткі». «Для іх чорнага рынка не было, — піша «Ньюсуік», — і дзесяцігоддзе невядомасці стала для іх бедствам».

Сітуацыя для многіх прагрэсіўных дзеячоў культуры мастацтва ЗША была нялёгкая. Яны падвяргаліся нападкам так званых «супер-патрыётаў». Іх цкавалі, на іх паклёпнічалі, на іх давілі, спрабуючы прымусіць здацца, капітуляваць. Многія нястойкія людзі ў абстаноўцы ўсеагульнай істэрыі і запалохвання адмовіліся ад сваіх поглядаў. Калі Трамбо выклікалі ў камісію па расследаванні антыамерыканскай дзейнасці, некаторыя кіраўнікі амерыканскай асацыяцыі прадзюсераў мастацкіх фільмаў запэўнялі, што яны ў любым выпадку акажуць яму падтрымку. Прэзідэнт гэтай асацыяцыі Эрык Джонстан тады патэтычна ўсклікаў, што ў кінапрамысловасці не будзе чорных спісаў. Але праз некалькі тыдняў ён перадаў друку ганебны дакумент, вядомы пад назвай «Валдорфскага маніфеста», у якім можна прачытаць наступнае: «Члены асацыяцыі прадзюсераў мастацкіх фільмаў будуць неадкладна звальняць або часова адхіляць ад работы без кампенсацыі кожнага з «галівудскай дзесяткі», пакуль ён не будзе апраўданы, не здыме з сябе абвінавачвання ў пагардзе да кангрэсу, і не заявіць пад прысягай, што ён не з'яўляецца камуністам».

Аднак нішто не магло пахіснуць рашучасці Трамбо. У адным з пісьмаў ён пісаў: «Часам я ашукваў сябе, часам рабіў разумна, пакутаваў, але быў дзіваком ці мудрацом, я ніколі не мог пераканаць сябе ў тым, што здолею захаваць годнасць чалавека, амерыканца, калі паддамся патрабаванню камісіі зрабіць вымушанае прызнанне».

Праз дваццаць гадоў пасля гэтых падзей амерыканская рэакцыя зрабіла новую спробу зламаць волю да супраціўлення Трамбо, на гэты раз праз чарнасоценную арганізацыю «Амерыканскі легіён». Трамбо прапанавалі накіраваць па гэтым адрасе пакаяннае пісьмо, што было б раўнасільна яго заяве аб «лаяльнасці» і «патрыятызме». Разлік ініцыятараў гэтай правакацыйнай задумы быў просты—за доўгія гады адлучэння ад любімай справы Трамбо перажыў нямала эканамічных і маральных цяжкасцей, хапіў нямала гора. І можа гэта надламала яго, падарвала яго ўпэўненасць. Але адказ яго быў такі: «Мне спатрэбілася б усяго дзесяць мінут, каб напісаць заяву, і гэта, відаць, вырашыла б усе мае эканамічныя і прафесіянальныя праблемы. Але гэта азначала б таксама разбурэнне маёй душы».

Часопіс «Ньюсуік» піша, што «Сёння Трамбо працуе пад сваім уласным, вельмі паважаным імем». Часопіс паведамляе, што хутка на экраны выйдзе яго фільм антываеннага зместу пад назвай «Джоні ўручаюць ружжо». Але ці доўга працягнецца гэты перыяд адноснага спакою для Трамбо?

Ва ўсякім выпадку, многія, вельмі многія факты гавораць за тое, што ў апошні час у ЗША ўсё больш прыкметна вымалёўваецца злавесны цень макартызму, ахвярай якога ў свой час былі Трамбо, дзесяткі, сотні, тысячы амерыканцаў розных прафесій. Лепшыя таленты Злучаных Штатаў, якія ўвасабляюць гонар і сумленне народа, як і раней, сістэматычна падвяргаюцца цкаванню і судова-паліцэйскім рэпрэсіям.

Друк зноў застракацеў паведамленнямі аб так званых «чорных спісах». Сотні амерыканскіх вучоных ужо занесены ў іх. А гэта значыць, што яны не могуць атрымаць работу ва ўрадавых установах і камітэтах.

У сучасных Злучаных Штатах за «іншадумства» пасадзілі на лаву падсудных, кінулі за турэмныя краты многіх вядомых дзеячоў сучаснай амерыканскай навукі і культуры — выдатнага дзіцячага ўрача Бенджаміна Спока, акцёраў Дзіка Грэгары і Джэйн Фонда, пісьменнікаў Мейлера і Гудмэна. Газавая камера пагражае амерыканскай патрыётцы, былой выкладчыцы Каліфарнійскага універсітэта, камуністцы Анджэле Дэвіс.

Амерыканскія дзеячы навукі і культуры, многія палітычныя дзеячы з трывогай гавораць аб удушлівай атмасферы рэпрэсій, праследаванняў, цкавання ў ЗША. Бенджамін Спок у сваёй нядаўняй кнізе «Прыстойнае і непрыстойнае» пісаў, што Амерыка з'яўляецца «самай магутнай рэакцыйнай сілай сённяшняга свету». Акцёр Дзік Грэгары сказаў пра ЗША так: «Гэта краіна, дзе ўладам напляваць на чалавечыя правы, затое яны пасылаюць войскі для абароны прыватнай уласнасці».

У гэтых умовах многія сумленныя людзі ўступаюць у строй актыўных барацьбітоў супраць растучай пагрозы рэакцыі, даюць адпор спробам правых сіл Амерыкі зноў увергнуць краіну ў цемрашальства, ва ўсю шырыню разгарнуць «паляванне за ведзьмамі». Многія ж лічаць за лепшае пакінуць ЗША, каб выратавацца ад праследаванняў, каб мець магчымасць працаваць.

Паказальны ў гэтых адносінах артыкул пад загалоўкам «Амерыканскія эмігранты ў Лондане», апублікаваны ў часопісе «Ньюсуік» за 30 лістапада 1970 года. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Лондан у нашы дні з'яўляецца прыстанкам для амерыканцаў-выгнаннікаў. Многія з іх маюць вядомыя імёны ў літаратурным свеце і мастацтве».

На вуліцах Лондана можна сустрэць былога каліфарнійскага дырыжора Андрэ Прэвена і былую амерыканскую актрысу Лі Рэмік, пісьменніка-гумарыста Перэльмана і прадзюсера Карла Формэна. Дарэчы, Формэн быў сярод той жа «галівудскай дзесяткі», і яшчэ ў 1952 годзе прыехаў у Лондан у пошуках работы. Тут жа знаходзяцца акцёр Род Стэйгер, прадзюсер Стэнлі Донен, журналісты Джон Кросбі, Флер Меер і многія іншыя. «Ньюсуік» прызнае, што многія пакінулі ЗША з-за «палітычнай заявы».

Няма ніякага сумнення, што ў ЗША ўздымаецца новая хваля чарнасоценнага накіпу. Здань макартызму зноў лунае над краінай. Зноў вяртаюцца «вар'яцкія гады халоднай вайны».

Г. НАВІЦКІ.

---

Прапанова спадабалася і астатнім. Мікалай Рэгіс падаў ідэю — паспрабаваць покуль што спосаб працейшы.

— А што, калі Сакольскаму старосце падсунуць узятку?—падаў ён ідэю.—Ды—ёмкую, каб той не адмовіўся?!

Усе згадзіліся на суму ў гадавы аклад павятовага начальніка 12 000 злотых.

Мікалай Рэгіс запрог Альяшовага буланчыка, узяў пачку грошай і адправіўся ў Саколку.

Прыбыў ён у горад якраз тады, калі ваявода са старостай канчалі замятаць сляды. Былога дзячка здзівіла, што пан Вайцяховіч прыняў грошы, не міргнуўшы і вокам. Яшчэ большае было для яго дзіва, калі гэты цар і бог цэлага павета ўстрывожыўся:

— А вы яго не спаткалі?. То ж я пана Эльяша адпусціў яшчэ ўчора!.. Нават і адвезці хацеў!..

І былы вайсковы паскардзіўся:

— Выехала машына за Саколку, але пад Кузніцай пан Эльяш загадаў яе спыніць. Вылез і заявіў шафёру, што далей пойдзе пешшу!... Што за арыгінал гэты ваш стары?

Стрэляны верабей Рэгіс толькі цяпер здагадаўся, пад якой апекай яго шэф, якія ўсе яны былі наіўныя, што трывожыліся за лёс прарока.

— На машыне айцец Ілья не паедзе, ого! Грэх—паводле яго вучэння!...—з пашанай да свайго шэфа вытлумачыў ён старосце.—Наш айцец Ілья ездзіць толькі на фурманцы з драўлянымі восямі...

Рэгіс дагнаў свайго прарока ў Трасцяной і аддаў яму лейцы.

**7.**

Здарэнні апошніх дзён зноў нічому не навучылі вясковы люд. Падзею народ і на гэты раз талкаваў па-свойму. Зноў нібы развязаў хто вялізны мех, і па Прынёманшчыне шуганула магутная і неверагодная новая легенда пра тое, як папы, архірэі і іншыя праціўнікі «новага вучэння» захацелі зжыць са свету святога Альяша.

— Гэта ж паду-умаць толькі, да чаго дайшлі Альяшовы ворагі...—з абурэннем і жахам гаварыла адна цётка другой.—Так падстроіць!..

— Ну!.. Выкапалі з могілак труп, раздзелі пакойніка і голага падкінулі Ільі пад самюткі парог!..

А далей ужо перадавалі фантастычныя байкі, як паліцыя прывезла закаванага ў кайданы прарока ў Саколку і кінула ў халодную, а там ён засвяціўся незямным святлом.

— Альяш скінуў адразу свае кайданы і, нібы праз тую павуцінку, прайшоў праз краты і мураваныя сцены!—гаварылі з захапленнем.

Знаходзіліся нават такія, што ездзілі спецыяльна ў Крынкі, каб на ўласныя вочы паўзірацца на новага каменданта «пастарунка». Іншыя не ленаваліся з'ездзіць нават у далёкую Саколку і паўзірацца на новых следчых.

...Гэтым часам у Грыбоўшчынскай абшчыне раскольнікі прыціхлі—Альяша цяпер усе пачалі баяцца. Забойствам суперніка Клімовіч атрымаў бязмежную ўладу над апосталамі.

Працяг у наступным нумары.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ




МЕХАНІК нашага цэха Мікіта Чараўка атрымаў кватэру ў новым мікрараёне. Падзея не абы якая, хоць у нас і часта даюць кватэры. Ну і вядома, як такую падзею адзначаюць. Эх, ды ці толькі такую? Шчотку зубную набудзе іншы, а і то без абмыўкі не абыдзецца. А тут — асобная кватэра: два прасторныя пакоі, кухня, ванна, усе выгоды.

Дапамаглі мы Мікіту перавезці рэчы са старой кватэры, мэблю расставілі.

Мікіта задаволены. Жонка яго таксама не нарадуецца — асабліва з кухні.

— Якая раскоша! — цешыцца. — Сама сабе гаспадыня. А нас жа трое на адной кухні таўклося. Ой, чаго там ні было!..

А неўзабаве на стале ўжо было тое, што патрэбна пры такім выпадку.

Селі мы за стол. Інжынер вытворча-тэхнічнага аддзела Ранкевіч, чалавек бывалы, рукі пацірае:

— Браткі, закусь якая! Не тое, што там, — ён робіць райкінскі жэст на захад.

Ранкевіч два месяцы быў у камандзіроўцы ў Англіі — па абсталяванне для завода ездзіў. Бачыў, як жывуць там людзі.

— Запросяць цябе ў госці, паставяць кубачак кавы, крыху большы, чым напарстак, і — гуд бай!.. А за кватэру такую, як ты, Мікіта, атрымаў, палову заробку бяруць. А яшчэ выхваляюцца сваім стандартам жыцця!..

А гаспадыня каля стала завіхаецца:

— Бульбачкі гарачанькай, госцейкі, калі ласка...

— Вось гэта стандарт! — загаманілі хлопцы, накладваючы на талеркі сопкія плады зямелькі нашай і кавалкі тлустага селядца.

Узялі чарку, пасля другую. Закусваем і пазіраем на бутэлькі, у якіх малавата засталося, і... з неспакоем — на гадзіннікі. А закусь усё прыбывае. Так, без дабаўкі не абыдземся.

— Хлопцы, да сямі дваццаць мінут засталося, — не вытрымаў хтосьці.

— Ліха яго ведае што, — падтрымаў яго другі голас. — Хоць у рабочы час запасайся...

— Бліжэй да справы, — перабіваю я бескарысную гаворку. — Парадак ёсць парадак. Дык што — па рубліку?

Ля пустой бутэлькі хутка вырасла горка рублёў. Цяпер пытанне — каму бегчы?

— Бяжы ты, Базыль, — кажа мне Мікіта. — Ты — маладзейшы.

Я згроб грошы і пабег.

У магазіне чарга, увесь мікрараён святкуе наваселле. А стрэлка вось-вось стане на сямі.

Прадаўшчыца хуценька адпускае тавар. У яе свая зацікаўленасць — план. На тых, хто марудзіць, бурчаць з чаргі:

— Варушыся, гэта табе не на рабоце!

Я хапаю свае дзве паўлітэркі, запіхваю іх у кішэні і бягу. Наўздагон чую: «Рэшту вазьмі!» Ліха з ёй, з рэштай — добра, што паспеў да сямі!

А тым часам хлопцы чакаюць (пра гэта я даведаўся на другі дзень). На стале закусь стыне. Гаспадыня падбадзёрвае гасцей:

— Нічога, я падагрэю. Мне нават прыемна. Сама на кухні гаспадыня. Чаргі на падагрэў не трэба займаць...

Гаспадыня раз падагрэла, паставіла на стол, гадзіна прайшла — зноў падагрэла, а мяне ўсё няма.

— Дзе ён прапаў? — хвалююцца хлопцы. — Можа ў міліцыю трапіў?

— Не можа быць!

Ведаюць хлопцы, што я не такі. Ды і амаль жа цвярозы. Іншая прычына мяне затрымала.

Выбег я з магазіна, а куды кінуцца — ніяк не ўцямлю. Кідаюся ад дома да дома, а ніяк не магу трапіць у новую кватэру Мікіты. Дамы ўсе аднолькавыя, кватэр процьма. Адраса ж дакладнага не ведаю. Ішоў з усімі, не глядзеў на дарогу, не прадбачыў, што давядзецца бегаць за дабаўкай.

Вось, здаецца, Мікітава кватэра. Званю. Адчыняюцца дзверы. Шум, гам, посуд звініць — і тут наваселле. Запрашаюць за стол.

— Дзякуй, — кажу, — мяне чакаюць. Пайшоў у магазін, а новай кватэры сябра не магу знайсці...

— Дык жа і наш пасланец недзе блукае, — рагочуць навасёлы.

— То, можа, пакуль ён прыйдзе, выручыць вас? — вымаю я бутэльку.

— А можа ён трапіў да вашых? — смяецца гаспадар. — Тады будзе такнатак...

Пабываў я, браткі, у той вечар на пяці наваселлях, узяў усюды па чарцы — бо дзе ж ты адмовішся? Радасць жа у людзей! Пасля гэтага зусім збіўся з панталыку. Да Мікіты так і не трапіў і дадому прыбіўся недзе апаўночы.

Адчыніў ціхенька дзверы. Жонка, на шчасце, спала. Ну, думаю, добра, не трэба даваць тлумачэнняў. На дыбачках прабраўся ў ванну — трэба ж паўлітэрку схаваць, купленую на грамадскія грошы. Толькі заняўся гэтай канспіратыўнай работай — раптам за спіной:

— А што ты тут робіш?

Ледзь бутэлька з маіх рук не вывалілася.

— Нічога, — кажу, — вось рукі хачу памыць...

— Гарэлкай?

— Тут, разумееш, справа такая, — пачынаю тлумачыць. — У чалавека радасць...

— Нешта вельмі часта...

— Дык разумееш, стандарт не той. Не ў Англіі мы жывём. Што нам на чорны дзень адкладваць?

— Які стандарт?

— Які, які! У Англіі паставяць кубачак кавы, чорнай там ці з малаком, і — гуд бай!

— А ну — дыхні!

Вось і пагавары з ёю пра вялікія справы.

— А кінь ты — дыхні!.. Вось каб з цябе палову палучкі забралі за кватэру, ведала б, што такое стандарт.

А жонка сваё:

— Мала што нацюкаўся, дык яшчэ і з сабой гарэлку прыцёг. Які стандарт вытрымае такое?!

— Адстала, — кажу я ёй, — ты ад палітычнага жыцця...

Да ранку я яе пераконваў. Пераканаў урэшце. Згадзілася, што стандарт жыцця ў нас вышэйшы і чарку з добрай прычыны выпіць не грэх.

Савось АВОСЬ

## ДЗЕ ПЕГАС ПАСЕЦЦА?

*Рэпартаж з Алімпа спецыяльна для «ЛІМа»*

### У ЛЕСЕ ЁСЦЬ ДОМ ТВОРЧАСЦІ

(Чакай, чытач, не моршчыся!)

Далей ад шуму гарадскога,
Ад рэдакцыйнай мітусні!
Малі
Літфондаўскага бога,
Паэмы, эпапеі сні...

Прыгадвай краскі ў росным лузе,
Рыфмуй усе да аднае!
Хвастом вільне
Сабака Зюзя—
Ён толькі знаных прызнае.

Персонаю сваёю цешся.
З уласным ценем за руку
Вітайся.
Кроч па збітай сцежцы.
А не—
Праступ па цаліку.

Лаўровы ліст!
Усім даволі!
Пішы ў цяпле
Пра снег, пра золь.
А не хапае ў нечым солі—
Дабавіць кухар Анатоль.

Перад салдатам не хваліся,
Ён вам раскажа спакваля,
Як Жукава карміў калісьці
І Караткевіча...
Пасля.

Паэтка просіць спачування
(Не наламаць бы ў лесе дроў!):
— Пяць вершаў толькі
Да снядання
Прынесла Муза,
Як свякроў...

У кожнага
Сваё старанне,
Тут, у тузе
Ялін і траў,
Заспанай восенню шторання
Вялюгін рыжыкі збіраў.

Тут кожны сук,
Як напамінак.
І навакольныя лясы
Люляюць на сваіх галінах
Усіх масцітых галасы.
Імёнаў не пішу—
Прабачаць!
А то сядзі і моршчы лоб,
Не прапусціць хаця б каго,
Як у дакладзе справаздачным...

Ну проста рай!

Усё ў мінулым...
Астыў літфондаўскі запал.
І захлынуўся ўласным гулам
Усіх прамоў
Дзевяты вал.

А кіраўніцтва не заплача—
Свая бліжэй да сэрца дача.
Хоць і наведвае,
Ды рэдка.
Лес не саюз —
Пануе мір!
Тут затрымаецца дырэктар,
Нібы транзітны пасажыр.

Зашмат цацанак-абяцанак...
А покуль штатны інжынер
Грызе зарплаты абаранак,
Мароз хапае за каўнер.

Зноў зіма-лета,
Зіма-лета,
Як той цыган даводзіў.
Хіба
Хтось Дом трымае для сюжэта
Пра старасвецкую сядзібу!

Што павукам зважаць на гэта!
Ва ўсіх пакоях непрыбраных
Так пазакручвалі сюжэты,
Бы ў Ваданосава ў раманах.

Ці для СП
Цяжкая ношка!
Ці хочацца сказаць скарэй:
«Избушка там на курьих ножках
Стоит без окон, без дверей»!!

Працяг. Пачатак у нумарах за 21, 28 жніўня і 4 верасня мінулага года.

## ФРАЗЫ

Марцін КОЎЗКІ

*Мастацтва эканоміі спасцігнуў, эканомячы на мастацтве.*

□

*Мера розуму: не такі разумны, каб мудраваць, і не такі мудры, каб не разумнічаць.*

□

*Не кожны, хто ідзе ў нагу з часам, ідзе на сваіх двaіх.*

□

*Ніхто і нішто... Разам гэта ўжо нешта.*

Н. ПАРУКАЎ

*Хабарнік не прызнаваў тэхнікі — працаваў уручную.*

□

*Крытык, вываліўшыся з лодкі, затануў — прывыкшы трымацца пасярэдзіне, ён не рашыўся паплысці да берагу.*

□

*Розум сярод людзей размеркаваны нераўнамерна, але ўсе задаволены і ніхто не ідзе скардзіцца.*

Рыгор БОХАН

## ВЫПАДКІ

### ХАРАКТАРЫСТЫКА

— Таварыш дырэктар, ад мяне патрабуюць характарыстыку.

— Дык што? Напішы, а я падпішу.

### СКЕПТЫК

Перад тым, як аднесці пінжак у хімчыстку, Іван Іванавіч скрывіўся:

— Ці ж умеюць у нас выводзіць чарнільныя плямы?!

Пасля, калі плямы вывелі, прабурчэў:

— Га, хіба ў нас умеюць рабіць людскае чарніла?!

### НЕ ПАШАНЦАВАЛА

Рэвізор прыйшоў дадому. Жонка пытае:

— Дзе ж правізія?

— Няма... Дырэктар базы, на жаль, сумленны чалавек.

### ГІМНАСТЫКА

— Ведаеш, цяпер я ўстаю, як толькі пачынаюць па радыё перадаваць гімнастыку.

— Значыць, кожную раніцу робіш зарадку?

— Глупства! Яе робіць адна прыгажуня, што жыве ў доме насупраць.

### ЯК І Ў ЗАГАДЧЫКА

Дзяўчына грае на піяніна. Госць гаворыць маці:

— У вашай дачкі такія ж здольнасці, як і ў нашага загадчыка.

— А ён таксама грае на піяніна?

— Не. Але і ў яго правая рука не ведае, што робіць левая.

Уладзімір РУДЗІНСКІ

## МІМАХОДЗЬ

*Ён умеў выходзіць чыстым не толькі з лазні.*

□

*Здольнасць хутка схопліваць чужыя думкі перарасла ў яго ў звычку хапаць іх і прысвойваць.*

□

*Прывычка рабіць што-небудзь за спіной у іншых была ў яго настолькі вялікая, што ён нават пазногці абразаў, заклаўшы рукі за спіну.*

□

*Асновай свайго жыцця гультай лічыў... закон захавання энергіі.*

□

*Пра былога барца, які стаў на літаратурны шлях, гаварылі: «Моцны пісьменнік!».*

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63856 АТ 08057

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.